НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 38 (731) 12 кастрычніка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Факінь бастардс

Расійская журналістка Алена Бадзякіна стала гераіняй прэс-канферэнцыі Лукашэнкі, а пасля і Ю-Туба. Старонка 4.






# Сходу не ўдалося

Толькі дзве тысячы чалавек сабраліся пад залевай на Народныя сходы. Старонка 3.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## Еўропа забараніла ўезд новым беларускім чыноўнікам

Рашэнне пра гэта Рада міністраў замежных спраў Еўрасаюза прыняла 10 кастрычніка. Такім чынам Еўрасаюз адрэагаваў на новыя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.

У новым спісе 16 прозвішчаў — пераважна суддзі і пракуроры. Усе яны тым ці іншым чынам былі ўцягнутыя ў зняволенне палітвязняў і прысуды ім.

Ёсць у спісе і два начальнікі калоній, дзе вязняў абмяжоўвалі ў правах ці шантажавалі, каб схіліць да прашэнняў аб памілаванні.

Таксама ў чорны спіс трапіў Уладзімір Палуян, міністр па падатках і зборах, зямляк Макея. Міністру, імаверна, паставілі ў віну справу Бяляцкага.

**Мікола Бугай**

Ад 2012 года газета ў кіёсках падаражэе да 4000 рублёў. **Хто падпісваецца — выйграе.**

# Дык падпісвайся!

**По сродках**

### Табло за 900 мільёнаў рублёў

паставілі ў Лядовым палацы ў Гродне.
**Старонка 8.**



**Гаспадарка**

### Льготныя крэдыты стануць пад 31%?

На дамы, якія здаюцца ў 2012-м, да канца года не пералічаць ні рубля. **Старонка 5.**



**Здарэнні**

### 16-гадовая дзяўчына загінула ў метро

Яна ўпэўнена ступіла ў нішу з рэйкамі і праляжала там секунд 30... **Старонка 10.**



**Чалавек**

### Стыў Джобс: сакрэт фенаменальнага менеджара

**Старонка 9.**



**Жыццёвае**

### Будзем нараджаць бэбі

Калі ты малады, ты думаеш, што ўсё ў жыцці па планах. **Старонка 12.**



# Метэаролагі: зіма будзе сцюдзёнай

Еўропа ўваходзіць у новы **малы ледавіковы перыяд**.

Будучая зіма, папярэдзілі брытанскія метэаролагі, будзе халоднай. Яны зрабілі свае высновы на аснове аналізу змен тэмпературы інтэнсіўнасці плыняў Атлантычнага акіяна, якія, на думку навукоўцаў, вызначаюць характар зімы ў краінах Еўропы.

Больш за тое, фундаментальнае даследаванне Метэаралагічнай службы Вялікабрытаніі, якая ўваходзіць у склад Міністэрства абароны, паказвае, што Еўропа, «магчыма, на парозе новага малога ледавіковага перыяду, калі значна ўпадзе сярэднесутачная тэмпература паветра». Такое рэзкае змяненне клімату Еўропы ўжо назіралася 300 гадоў таму, калі незвычайна халодныя зімы стаялі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

**БелТА**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Малы ледавіковы перыяд**

— гэта непазбежная рэальнасць. Клімат цыклічны і залежыць ад сонечнай актыўнасці, што выражаецца ў наяўнасці сонечных плямаў: чым больш на сонцы плямаў, тым большая актыўнасць. Малыя ледавіковыя перыяды наступаюць падчас мінімальнай сонечнай актыўнасці. Падчас апошняга такога перыяду (XVII—XVIII стст.) на сонцы ўвогуле не назіралася плямаў. Гэтая з'ява называецца «мінімумам Мондэ». Тады нават Тэмза ў Лондане замярзала, а ў Маскве ў чэрвені аднойчы выпаў снег.

Трэба разумець, што малы ледавіковы перыяд — гэта змены ў сярэдніх паказчыках тэмпературы за год да некалькіх градусаў. Клімат заўсёды змяняўся і раней, калі ўплыў чалавека на прыроду быў мінімальны. Напрыклад, Сахара ў свой час была саванай, а не пустыняй. Над нашымі галовамі вісіць тэрмаядравы рэактар — Сонца, якое і ёсць сапраўднай і асноўнай прычынай зменаў клімату на Зямлі.

**Алесь N.**

**Старыя людзі прадказвалі зіму**

Існуе некалькі прыкметаў. Адны раскопвалі зямлю і шукалі, на якой глыбіні хаваюцца жукі. Лічылі, што перад марознай зімой насякомыя хаваюцца глыбей, а перад цёплай — бліжэй да паверхні. Для прадказання трэ было параўноўваць вынікі розных гадоў у тым самым месцы.

Лічыцца таксама, што вялікі ўраджай рабін — да марознай зімы.

# Вось такая сацыялогія

Прафесара Манаева, які выявіў **падзенне рэйтынгу** Лукашэнкі, затрымалі.



6 кастрычніка ў Мінску затрымалі заснавальніка Неза-лежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) Алега Манаева. Прафесара спынілі блізка ад пасольства Польшчы, дзе павінна была адбыцца прэзентацыя ягоных апошніх даследаванняў рэйтынгу Аляксандра Лукашэнкі. Міліцыянты спачатку праверылі дакументы, а пасля пачалі шукаць пры ім зброю і наркотыкі. Потым прафесара адвезлі на тры гадзіны ў Партызанскі РУУС.

Сваё затрыманне прафесар Манаеў звязвае з крыўдай уладаў на агучаныя ім вынікі апошніх даследаванняў НІСЭПД. Паводле інстытута, на сёння Аляксандру Лукашэнку давяраюць толькі 24,5% рэспандэнтаў, не давяраюць — 62,3%. Большасць апытаных лічаць кіраўніка дзяржавы вінаватым у эканамічным крызісе ў Беларусі. Манаеў лічыць, што рэйтынг Лукашэнкі ў далейшым будзе залежаць ад таго, ці атрымаецца яму знайсці сродкі, каб «закрыць дзіркі». У той жа час прафесар сумняецца, што апошняе інтэрв'ю Лукашэнкі расійскім журналістам дабавіць яму папулярнасці. Бо словы, што ў краіне няма крызісу, для людзей выглядаюць хутчэй выклікам, чым тлумачэннем.

**Кастусь Матушыч**





## Беларуская чыгунка аб'явіла тэндар на закупку... валёнкаў



Аддзел забеспячэння Беларускай чыгункі аб'явіў тэндар на закупку 210 пар «валенага абутку з гумовым нізам» на суму 31,5 мільёна рублёў.

Аднак, як паведаміла супрацоўніца аддзела забеспячэння БЧ Алена Пяткевіч, заявак ад вытворцаў зімовага «спецабутку» пакуль яшчэ не паступала. Пры гэтым цана, па якой чыгунка гатовая набыць абутак, не такая і нізкая: 150 тысяч рублёў за пару.

«Ёсць завод у Смілавічах, але там сказалі, што валёнак няма ў наяўнасці. Я падала ім заяўку, але пакуль яшчэ не атрымала пацверджання, калі змогуць выканаць».

Відаць, для ААТ «Смілавіцкая валяльна-лямцавая (войлочная) фабрыка» 210 пар — занадта малы заказ.

**Аксана Рудовіч**

## Сцісла

**Лукашэнка даў згоду на падпісанне кантракта з Расіяй аб АЭС**

«Такое рашэнне дорага каштуе для Беларусі», — заявіў ён 11 кастрычніка падчас сустрэчы з губернатарам Наўгародскай вобласці Сяргеем Мітіным. У выніку залежнасць нашай краіны ад Расіі ў энергетыцы яшчэ ўзрасце.

**Багданкевіч: Курс можа стабілізавацца на ўзроўні 8000—8500**

Былы старшыня Нацыянальнага банка мяркуе, што такое адбудзецца, толькі калі Беларусь «атрымае крэдыты ад усходніх сяброў і Міжнароднага валютнага фонду». Ён таксама заўважыў, што ўрад не павінен ізноў друкаваць «пустых грошай», інакш рубель ізноў пачне падаць. Як вядома, Беларусь займае першае месца па тэмпах дэвальвацыі нацыянальнай валюты як у Еўропе, так і ў СНД. Больш пра фінансы — **старонка 5**.

**У Мінску пачалі ўключаць ацяпленне**

Найперш цяпло пайшло ў садкі, школы, бальніцы.

**Белстат: інфляцыя ў верасні склала 13,6%**

Больш за ўсё ў верасні падаражэлі яйкі і цыгарэты — на 31%, мяса — на 27%, агароднiна — на 26%, алкаголь — на 25%, рыба — на 18%. Нават па афіцыйных, ціпатных звестках інфляцыя з пачатку года склала ўжо 75%.

**Завод IKEA паўстане пад Гродвам**

Паводле словаў генеральнага консула Беларусі ў Беластоку Аляксандра Берабені, першая чарга будзе каштаваць 8 мільёнаў даляраў. Праект будзе ажыццяўляцца ў некалькі этапаў. Будуць выпускаць камплектуючыя для мэблі, у перспектыве — саму мэблю. Прадпрыемства паўстане ў Свіслацкім раёне. Яшчэ адна дрэваапрацоўчая кампанія — Kronospan (Аўстрыя) — у Смаргонскім раёне будуе вытворчасць арыентавана-стружкавых пліт, ламінаваных ДСП і МДФ.

**Загубіла ўласнае дзіця**

У Століне асудзілі жанчыну, дзесяцімесячны сын якой патануў у ванначчы для купання. 22-гадовая маці была выпіўшы. Пасадзіла малога ў ванначку з вадой і пайшла ў іншы пакой. А калі вярнулася, той ужо патануў.

**СГ; БелаПАН**

## Самае чытанае на nn.by за 5—11 кастрычніка

1 Народны сход: анлайн-рэпартаж

2 16-гадовая дзяўчына загінула на станцыі метро «Пушкінская»

3 Расійская журналістка, якая вярнулася з прэс-тура, ратуе Маскву ад бел-чырвона-белага сцяга — відэа

4 Лукашэнка: «Дзе гарантыя, што мяне не пасадзяць?»

5 Спецназаўскі суботнік — фоты, дасланыя чытачамі

6 У фуражцы народжаны — відэа

7 Затрымалі сацыёлага Манаева, які выявіў падзенне рэйтынгу Лукашэнкі да 20%

8 Урад загадаў «Беларусбанку» прыпыніць льготнае крэдытаванне дольшчыкаў

9 Зіма будзе вельмі сцюдзёнай

10 Рок-красуні

# Сход парасонаў

Некалькі соцень чалавек сабраліся пад залевай на плошчы Бангалор на **Народны сход**.

Народныя сходы 8 кастрычніка не сталі шматлюднымі. Не аб'ядналася вакол патэнцыйна самай масавай восеньскай акцыі і апазіцыя. «Еўрапейская Беларусь», аргкамітэт пастварэння Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі і анархісты — вось і ўсе сілы, якія засведчылі свой удзел сцягамі і расцяжкамі. Асноўны арганізатар, палітык Віктар Івашкевіч, здолеў сабраць па ўсёй краіне каля 2000 чалавек, прычым палова з іх прыйшла на сход у сталіцы.

Міліцыя падрыхтавалася да акцыі загадзя, выставіўшы вакол вызначанай арганізатарамі акцыі пляцоўкі на плошчы Бангалор турнікеты і кантрольна-прапускныя пункты. Зрэшты, да іх ніхто з удзельнікаў сходу не пайшоў. Усе згуртаваліся ля паркавай скульптуры — бусла на гняздзе.



Сяргей Гудзілін

**Патрабаванні ўдзельнікаў Народнага сходу**

- Спыніць неабгрунтаваны рост цэнаў.
- Забяспечыць заробкі і пенсіі на ўзроўні снежня 2010 года ў даляравым эквіваленце.
- Не дапускаць схаванага беспрацоўя.
- Спыніць таемны мафіёзны распродаж беларускіх прадпрыемстваў.
- Рассакрэціць «прэзідэнцкі фонд», а яго сродкі накіраваць на сацыяльную дапамогу малазабяспечаным.

**Зайздросны аптымізм**

«Народны сход не праваліўся», — пераконвалі арганізатары на выніковай прэс-канферэнцыі. «Мы яшчэ самі вучымся, як працаваць з грамадзянамі», — патлумачыў Фядыніч.

**«Фядыніч: Калі не будзе зменаў, будзе бунт.**

### Акцыя вакол лужыны

Надвор'е не спрыяла мітынгу. Ад раніцы над Мінскам зарадзіла залева. Людзі прабіраліся ў парк Дружбы народаў у гумовых ботах і дажджавіках, і гэта было адзінае выйсце з сітуацыі. У дадатак, арганізатары сталі каля самай вялікай лужыны, глыбінёй па калена, вакол якой людзям і давялося прастаяць амаль гадзіну. Усе трымалі над галовамі парасоны, ствараючы фантасмагарычную карцінку. Выступоўцы бачылі не людзей, а парасоны, а мітынгоўшчыкі слухалі прамоўцаў, але не бачылі іх. Дарэчы, Івашкевіч і Фядыніч прамаўлялі праз мегафон. Іншую апаратуру канфіскавалі, разводзілі рукамі арганізатары.

Кіраўнік незалежнага прафсаюза працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці Генадзь Фядыніч абвінавачваў уладу ў татальным падмане. «Яны павышаюць цэны і кажуць, што народ жыве ўсё лепш», — прамаўляў ён. Фядыніч папярэджваў, што, калі сітуацыя не зменіцца, могуць адбыцца галодныя бунты: «Рабочыя не маюць магчымасці абедаць у сталовых, бо гэта задорага».

Калі арганізатары сталі запрашаць на імправізаваную сцэну — на фантан — усіх ахвотных выступоўцаў, стала зразумела, што ніякага пэўнага сцэнара акцыі няма. Так і адбылося — дазволіўшы некалькі эмацыйных прамоваў, Віктар Івашкевіч параіў усім разыходзіцца, каб сабрацца праз месяц на наступны сход. Ён мае адбыцца 12 лістапада ва ўсёй Беларусі ў тых самых месцах.

### Сход у тварах

Сярод удзельнікаў былі заўважаныя былыя кандыдаты ў прэзідэнты Уладзімір Някляеў і Віталь Рымашэўскі, якія слова на сходзе не папрасілі. А вось былы палітвязень Зміцер Дрозд магчымасцю выступіць скарыстаўся.

Асобнымі групоўкамі на акцыі стаялі паўтара дзясятка анархістаў, якія трымалі расцяжку «Свабода, роўнасць, справядлівасць» і, скандуючы, перакрыквалі мітынг. Была і група нацыянал-бальшавікоў з дэвізам «Мы не будзем плаціць за крызіс». Сярод новых удзельнікаў акцый апазіцыі былі заўважаныя фанаты хакейнага «Дынама», якія закрывалі шалікамі свае твары.

Падчас акцыі міліцыянты не правакавалі, але, як заўсёды, адзначыліся, калі людзі сталі разыходзіцца. Ціхары ў штацкім ужо на прыпынку грамадскага транспарту напалі на анархістаў. Некаторых з іх людзі змаглі адбіць, але агулам было затрымана 12 чалавек. Праз некалькі гадзін усе яны былі адпушчаныя без складання пратаколаў.

**Ягор Марціновіч**

**Народныя сходы ў рэгіёнах**

**Брэст.** Прыйшло каля 100 чалавек.

**Віцебск.** Сабралася 130 чалавек.

**Гомель.** Прыйшло каля 150 чалавек. Спадара Сляпухіна, які зачытаў рэзалюцыю сходу і абвесціў аб прэвентыўным затрыманні арганізатараў, пасля заканчэння мерапрыемства калона суправадзіла дадому. Каб спецслужбісты яго не арыштавалі.

**Магілёў.** Сабралася 80 удзельнікаў. Міліцыя праводзіць акцыю не замінала.

**Бабруйск.** Арганізатар сходу Віктар Бузінаеў пачаў зачытваць рэзалюцыю 50 удзельнікам, калі яго схапілі і павалаклі міліцыянты. Людзі прыйшлі да пастарунка, але апазіцыянера ўжо выпусцілі.

**Баранавічы.** Прыйшло каля 100 чалавек. Адзін з удзельнікаў налічыў ажно 34 відэакамеры ў руках ціхароў.

**Полацк.** Удзельнічала каля 60 чалавек.

У некаторых гарадах сходы не адбыліся праз перашкоды з боку ўладаў (**Гродна, Рэчыца, Светлагорск, Мазыр, Ліда, Слонім, Орша, Наваполацк, Глыбокае**). У іншых арганізатары самі ўрэшце вырашылі сходаў не праводзіць (**Барысаў**).

# Хто шызафрэнік?

Аляксандр Лукашэнка назваў свайго апанента хворым чалавекам.

У часе прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў зайшла гаворка пра палітычных вязняў. «Адзін [з іх] напісаў заяву аб тым, што ён псіхалагічна знясілены, — заявіў Лукашэнка падчас прэс-канферэнцыі расійскім СМІ. — Ну, змясцілі яго ў лякарню, правялі абследаванне. У яго ступень шызафрэніі, далі яму другую групу інваліднасці. Нельга ж трымаць у турме хворага чалавека, інваліда. Выпусцілі яго».



Сяргей Гудзілін

Каго меў на ўвазе кіраўнік краіны? Напярэдадні прэс-канферэнцыі на свабоду выйшаў экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус. Яму ў зняволенні сапраўды далі другую групу інваліднасці. Аднак Ус, які некалькі гадоў таму перанёс цяжкую аперацыю і клінічную смерць, з горыччу абверг словы Лукашэнкі: «У мяне неўралагічнае захворванне было, з шызафрэніяй не звязанае. У мяне карабіны і зброя ёсць у наяўнасці. Калі б я быў шызафрэнікам, хто б мне дазволіў трымаць зброю? Калі ён хоча мяне зрабіць шызафрэнікам, гэта піяр-ход, каб абліць мяне брудам. Я праходзіў усе камісіі, у мяне пасведчанне кіроўцы. Ніякай шызафрэніі няма. Гэта чыстая хлусня».

У адказах Аляксандра Лукашэнкі, якія размешчаны на яго афіцыйным сайце і перадрукаваны «Советской Белоруссией», словы пра шыза-фрэнію ўжо адсутнічаюць.

**Кастусь Матушыч**

Згодна з часткай 1 артыкула 178 КК РБ, наўмыснае разгалошванне медыцынскім, фармацэўтычным ці іншым работнікам без прафесійнай альбо службовай неабходнасці звестак аб захворванні ці выніках медыцынскага агляду пацыента (разгалошванне лекарскай таямніцы) караецца штрафам альбо пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю.

**У 1999-м Лукашэнка іншага апанента пахаваў**

31 ліпеня 2001 года на нарадзе з кіраўнікамі мясцовых уладаў ён выказаўся пра пахаванне віцэ-спікера Вярхоўнага Савета 13-га склікання Генадзя Карпенкі ў красавіку 1999 года.

«Апазіцыянеры ўжо два гады носяцца з гэтымі зніклымі. Яны туды запісалі і Генадзя Карпенку. Што, ён таксама знік? Чалавек памёр, якога ратаваў найлепшы ў нас хірург, ратаваў трое сутак. Мясніковіч адказваў за гэта». Лукашэнка заявіў тады, што ўлады па просьбе ўдавы палітыка Людмілы Карпенкі аплацілі пахаванне мужа. «Калі памёр Карпенка, я вам шчыра скажу, мы яго хавалі».

Людміла Карпенка словы кіраўніка дзяржавы назвала «цынічнай хлуснёй». Жанчына адзначыла, што «я б лепш памерла, чым пайшла да гэтых людзей». Але прызнала, што Мясніковіч званіў яе родным, а Ціцянкоў прыходзіў да іх. Пра гэта Людміла даведалася толькі пасля пахавання.

## Ус: Не ведаю, ці паказанні Рымашэўскага адыгралі ролю ў маім пакаранні

Ус выказваў меркаванне, што Лукашэнку **трэба арыштаваць**, і гэта фігуруе ў пратаколе допыту Рымашэўскага.

Падчас анлайн-канферэнцыі на сайце радыё «Свабода» Дзмітрый Ус, сярод іншага, адказаў на пытанне, якую ролю адыграў іншы экс-кандыдат Віталь Рымашэўскі ў яго пакаранні.

Дзмітрый Ус адказаў наступнае: «У крымінальнай справе маёй і Статкевіча ёсць пратакол допыту Рымашэўскага, дзе [гаворыцца, што] ў нас была сустрэча з ім і ён выказваў свае меркаванне наконт маіх словаў, што трэ было арыштаваць Лукашэнку. Гэта зафіксавана ў пратаколе. Я не ведаю, наколькі гэта сыграла ролю ў маім пакаранні, але гэта было».

**Мікола Бугай**

# Факінь бастардс

**Расійская журналістка Алена Бадзякіна вылучылася на прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі, а пасля стала гераіняй Ю-Туба.**

«Я расійскі журналіст! Я толькі што вярнулася з прэс-тура па Беларусі, а вас трэба забіваць, жывёлаў!»



Алена Бадзякіна не стала тлумачыць, што яна рабіла ў суботу каля беларускага пасольства ў Маскве.

Больш за 60 тысяч чалавек прагледзелі ў інтэрнэце на Ю-Тубе 10-хвілінны відэаролік, у якім зафіксавана, як расійская журналістка Алена Бадзякіна напала на пікетоўцаў каля беларускага пасольства ў Маскве. У дзень Народнага сходу, 8 кастрычніка, група беларускіх студэнтаў у Маскве разгарнула ля беларускай дыпламатычнай пляцоўкі вялікі бел-чырвона-белы сцяг у знак салідарнасці. Аднак неўзабаве на іх накінулася жанчына са словамі: «Я расійскі журналіст! Я толькі што вярнулася з прэс-тура па Беларусі, а вы нацыяналісты і фашысты, вас трэба забіваць, жывёлаў!»

Свае выкрыкі спадарыня тлумачыла тым, што «гэта сцяг Радзівілаў, пад якім польскія найміты расстрэльвалі расійскіх афіцэраў».

У сваіх пагрозах жанчына пераходзіла часам на англійскую мову, адрасуючы словы «польскім гаспадарам і амерыканскім сябрам» беларускіх хлопцаў: «Ай эм рашн джорналіст энд ай эм протэстінь эгейнст ю, факінь бастардс. Ай хейт ю віз ал май харт!» (Я расейская журналістка і я пратэстую супраць вас, х... выб... Я вас усім сэрцам ненавіджу.)

Спачатку жанчына вырвала сцяг з рук збянтэжаных юнакоў, «таму што вы падонкі і нягоднікі... правакатары і адрабляеце амерыканскія грошы», але пасля адзін з іх акуратна выхапіў яго ў яе назад. Пасля гэтага Бадзякіна пабегла за ім з крыкам «гэты чалавек мяне толькі што абрабаваў», а затым пачала тэлефанаваць ў паліцыю. Увесь гэты неперадавальны балаган зафіксаваны на відэаздымцы. Рэдкая па сваім камізме сцэна справакавала дзясяткі перадрукаў і тысячы каментароў у інтэрнэце. Да артыкулаў Бадзякінай у газеце «Северный Кавказ» беларусы пакінулі сотні каментароў.

Алена Бадзякіна не стала тлумачыць журналісту «Нашай Нівы», што яна рабіла ў суботу каля беларускага пасольства ў Маскве. Але яна заявіла, што яе фільмавалі без яе дазволу і яна гатовая падаць за гэта ў суд.

### Мір і спакой

«Мы часам нават злуём на беларусаў, якія гавораць нам пра свае беды. Нам яны здаюцца такімі смешнымі і недарэчнымі. Мы нават лаем вашых людзей за няўдзячнасць. Ці ведаюць беларусы, што Вам удалося захаваць мір і спакой, у параўнанні з нашым рэгіёнам?» — гэтыя словы расійскай журналісткі ў часе прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі многія беларусы абмяркоўвалі.

Маю сяброўку гэтае выказванне найбольш абурыла: ды што яна ведае пра наша жыццё, каб такое гаварыць? Як можна такое гаварыць пасля двух дзён у пацёмкінскіх вёсках? Маю сяброўку зачапіла, як пры гэтым Аляксандр Лукашэнка заявіў, што школьнікаў у Беларусі кормяць бясплатна. «Папершае, бясплатна кормяць толькі малодшакласнікаў. А мой старэйшы сын, пяцікласнік, сёлета за сняданак плаціць па 7000 рублёў! Па-другое, нават на сняданак маёй трэцякласніцы мы даплачваем цяпер па 1000 рублёў, бо дзяржаўнай датацыі на страву замала».

### Who is Алена Бадзякіна?

Алена Бадзякіна не першы раз прыязджае па запрашэнне беларускай адміністрацыі. Беларуская журналістка Яніна Мельнікава расказвае, што ўпершыню сутыкнулася з Бадзякінай аднойчы ў часе камандзіроўкі ў Махачкалу. «З маленнем у вачах пытала, ці не ведаю я, калі наступны прэс-тур у Беларусі будзе. Маўляў, надзвычай добрыя боты і паліто ў мінулы раз ёй задарма на нашых фабрыках дасталіся».

У 2010 годзе публікацыя спн. Бадзякінай «Свята славянскага тэатра» перамагла ў конкурсе «Беларусь — Расія. Крок ў будучыню». Конкурснае журы ўзначальваў сумнавядомы па справе «Мабэтэкса» і саюзнай дзяржаве Павал Барадзін.

### Ваша краіна — вашы праблемы

Мы патэлефанавалі спн. Бадзякінай і запыталіся, чаму яна так шмат піша пра Беларусь і ці бачыла ў сваіх паездках не толькі дасягненні, але і нейкія праблемы беларускага жыцця. «Я неяк больш пра Расію думаю, — адказала яна. — Гэта ваша краіна, вашы праблемы. А ў мяне хапае праблем сваёй радзімы. Мне гэтага болю больш чым хапае». «У нашым рэгіёне людзі атрымліваюць 100 долараў, пры гэтым камунальныя плацяжы ім прыходзяць на 200 долараў. Вы гэта ведаеце? Вы адсталі ад расійскіх рэалій і не ведаеце, што ў нас 100-працэнтная аплата плацяжоў. У нас за газ людзі плацяць, як у еўрапейскіх краінах амаль што. Людзей высяляюць за нявыплату камунальных плацяжоў. У Расіі 2 мільёны бамжоў, у тым ліку выселеных за нявыплату камунальных плацяжоў! Вы ўвогуле пра бамжоў расійскіх чулі? А тое, што ў нас 4 мільёны беспрытульных дзяцей, ведаеце? Вялікая колькасць дзяцей школьнага веку не пайшлі ў школу, бо ў бацькоў няма грошай плаціць за школу, ведаеце? Вось неяк улічыце, падумайце пра гэта, разам супастаўце».

Урэшце яна кінула трубку.

Вось так пасля расійскай рэальнасці Беларусь ёй падалася раем. Праўда, Беларусь ва ўсе вякі жыла лепш, чым Чачня і Кабарда. Бадзякіна гэтага, здаецца, не ведае.

**Аксана Рудовіч**

**Алена Бадзякіна. Праўда пра Беларусь**

«Беларусь — сацыяльна арыентаваная дзяржава. Вялікія сродкі вылучаюцца з дзяржбюджэту на падтрымку маладых і шматдзетных сем'яў, маці-адзіночак, пенсіянераў, на будаўніцтва сацыяльнага жылля. Выдатна зарэкамендавала сябе сістэма льготнага крэдытавання, — людзі могуць атрымаць жыллёвы крэдыт пад 3-5% гадавых у растэрміноўку на доўгі час, што робіць яго цалкам даступным і няцяжкім.

У рэспубліцы паспяхова выконваецца праграма развіцця вёскі і малых гарадоў. Людзям не трэба ў пошуках лепшай долі імкнуцца ў вялікія гарады. Мінск — утульны і харошы горад, дзе на кожнага жыхара прыходзіцца некалькі гектараў зялёных насаджэнняў.

Каля чатырох тысяч мінскіх прадпрыемстваў прыцягнулі замежныя інвестыцыі, зарэгістравана 1713 сумесных і 2039 замежных прадпрыемстваў. Практычна на кожным буйным і нават сярэднім прадпрыемстве ёсць палiклінікі або медсанчасткі, аснашчаныя сучасным дыягнастычным і лячэбным абсталяваннем, ёсць свае санаторыі, базы адпачынку, вялікую падтрымку маюць ветэраны. Людзі ходзяць у турпаходы, адпачываюць у ведамасных пансіянатах, ездзяць у сумесныя паездкі. Гэта сучасная дзяржава, што ўдала злучыла найлепшыя элементы планавай і рынкавай эканомікі. Па тэмпах росту і будаўніцтва беларусы часам апярэджваюць тых жа кітайцаў. Чым больш параўноўваеш умовы жыцця ў Беларусі і ў Расеі, тым больш пераконваешся, што тут сапраўды дыктатура — дыктатура закона і сумлення. Падчас сустрэчы з намі Лукашэнка сказаў важныя словы: «Мы на калені не станем!». Словы, годныя сапраўднага лідара. Не быць у рабстве ў забугорных гаспадароў, весці сваю палітыку, будаваць сацыяльна арыентаваную дзяржаву, скіраваную ў будучыню, — такі прынцып цяперашняй беларускай улады».

**З артыкула, апублікаванага ў газеце «Северный Кавказ» 19 снежня, пасля вяртання з першага прэс-тура ў Беларусь.**

**Пра тэракт у мінскім метро**

«Гэты тэракт, хутчэй за ўсё, папярэджанне няскоранаму беларускаму народу, своеасаблівая «чорная метка» яе кіраўніцтву з боку так званага сусветнага парадку».

**«Рэспубліка», 13.04.2011**

**Даслоўна**

## «Жанчыну лічу вялікім тварэннем прыроды»

**Выказванні Аляксандра Лукашэнкі на прэс-канферэнцыі для расійскіх журналістаў.**

Дзе гарантыя, што мяне не пасадзяць? **(Аб прыватызацыі і патрэбе захавання законнасці ў працэсе яе.)**

Калі разваліцца Расія, нам усім будзе хана. **(Пра будучыню Расіі.)**

Нас будуць нахіляць, і вас таксама. Часта нас будуць праз вас.

Праханаў — я ўжо пачынаю яго абагаўляць. **(Рэдактар расійскай нацыяналістычнай газеты.)**

Калі мне ў інтэрнэце трэба нешта знайсці, дык мой сямігадовы пацан за тры секунды гэта зробіць, я так не умею.

Калі прэзідэнт у інавацыях наперадзе планеты ўсёй, калі ў айпад пальцамі тыкае, гэта выклікае сарказм у грамадства. **(Укол Мядзведзеву.)**

Я не памятаю выпадку, каб мы асудзілі жанчыну за карупцыю. **(Пры гэтым Лукашэнка памілаваў Жураўкову, сваю кіраўніцу справаў.)**

Расія вызначылася з сваім шляхам. І мы ўхваляем гэта. **(Пра артыкул Пуціна наконт стварэння Еўразійскага саюза.)**

Не хвалюйцеся за здароўе у Хойніках! Я тут езджу кожны год і нічога — сына нарадзіў. **(Пра радыяцыю.)**

У інтэрнэце поўная дэградацыя. Дзе гарантыя, што дзецям не захочацца паглядзець штосьці, што не трэба? Я не кажу пра парнаграфію і сэкс.

У мяне малому сем гадоў, мне яго трэба на ногі ставіць. Не факт, што я буду доўга прэзідэнтам. Я думаю, што мінімум гадоў да 90 не памру.

Калі б я ведаў, што беларусы на 80% больш ненавідзяць Лукашэнку, то я б сабраў шмоткі і сышоў. Хлусня поўная, што ў Лукашэнкі рэйтынг падае, што яго беларусы не любяць.

Валюту скупаюць тыя, хто ўвозіць у краіну кітайскія шмоткі, спекулянты.

Захад сказаў, што грошы даюць толькі на штурм і беспарадкі.

Манаеў — гэта выкармыш Захаду, жыве ён у Вільні.

Насамрэч Лукашэнку падтрымалі 79,9%, рэальна — больш за 80%.

Каб не мець праблем, ешце беларускае.

## Пуцін патлумачыў, як праз Мытны саюз хоча далучыць Беларусь

Узнавіць СССР нерэальна, аднак на базе Мытнага саюза і АЭП можна стварыць новы Еўразійскі саюз, напісаў Пуцін у праграмным артыкуле ў «Известиях». «Будаўніцтва Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы закладае аснову для фармавання ў перспектыве Еўразійскага эканамічнага саюза». «Мы не спыняемся на гэтым і ставім перад сабой амбіцыйную задачу: выйсці на наступны, больш высокі ўзровень інтэграцыі — да Еўразійскага саюза», — піша Пуцін.

Пуцін супакойвае: «Наіўна спрабаваць рэстаўраваць або капіяваць тое, што ўжо засталося ў мінулым» (маецца на ўвазе СССР). І расчышчае дарогу для расійскага капіталу: «цесная інтэграцыя на новай каштоўнаснай, палітычнай, эканамічнай аснове».

У Еўрасаюзе асновай для інтэграцыі была дэмакратыя і раўнавага партнёраў. А Еўразійскі саюз рызыкуе стаць новым прыкрыццём для рэалізацыі імперскіх інтарэсаў, як і СССР з саюза фармальна свабодных рэспублік хутка перарадзіўся ў таталітарнага монстра.

**Мікола Бугай**

# «Беларусбанк» перавядзе заключаныя 5%-я крэдыты на жыллё пад 31%?

А пакуль што на будаўніцтва дамоў, якія здаюцца ў 2012 годзе, не будзе пералічана **ні рубля**.

Урад прыняў рашэнне ў аднабаковым рэжыме замарозіць ільготнае крэдытаванне дамоў, якія здаюцца ў эксплуатацыю ў 2012 годзе і пазней. Такі загад аддадзены «Беларусбанку». Гэта вынікае з пратакола пасяджэння Савета Міністраў № 41 ад 27 верасня 2011 года. У п.4.1.2 гэтага дакумента адзначана: «Да вызначэння аб'ёмаў фінансавання жыллёвага будаўніцтва на 2012 год: ААТ «Беларусбанк» прыпыніць... ільготнае крэдытаванне будаўніцтва жылля, увод якога прадугледжваецца ў 2012 і наступным гадах».

**Дольшчыкі самі мусяць знайсці дадатковыя дзясяткі мільёнаў.** »

Іншымі словамі, беларусы, якім дзяржаўны банк, згодна з дамовай, павінен пералічваць грошы ў тры наступныя месяцы, не атрымаюць ні рубля. За гэты час іх кватэры істотна падаражэюць, але розніцу ў цане давядзецца аплачваць сваімі сродкамі.

### Хто заплаціць замест банка?

Справа ў тым, што кошт большасці кватэр індэксуецца штомесяц. Неаплачаная сума множыцца на індэкс будаўніча-мантажных прац, які вызначаецца Міністэрствамі эканомікі і архітэктуры і будаўніцтва. Напрыклад, калі банк быў павінен да канца будаўніцтва перавесці забудоўшчыку 100 мільёнаў рублёў, але не зрабіў гэтага, кватэра з 1 кастрычніка падаражэла ажно на 9,83 мільёна (міністэрскі індэкс склаў 109.83%). Прычым падобны пералік кошту кватэры адбудзецца і 1 лістапада, і 1 снежня, і 1 студзеня. Гэтыя грошы будзе вымушаны заплаціць будучы ўласнік кватэры сам.

У дамовах удзельнікаў долевага будаўніцтва ніколі не ўдакладняецца, адкуль будуць прыходзіць грошы, ці ад банкаў, ці ад саміх людзей. У той жа час пры парушэнні тэрмінаў аплаты на працягу некалькіх месяцаў забудоўшчык мае права разарваць дамову. Фактычна, «Беларусбанк» стварае для забудоўшчыкаў юрыдычную магчымасць адмовіцца ад старых дольшчыкаў і заключыць новыя дамовы, ужо па больш высокіх цэнах.


Замарозка крэдытаў прывядзе да тармажэння будоўляў.
PHOTO BYMEDIA.NET

### З ног на галаву

Згодна з дакументам, з 1 студзеня 2012 года выплаты павінны аднавіцца, але на якіх умовах? Як паведамляюць у кліенцкай службе «Беларусбанка», канчатковага рашэння пакуль не прынята. Ніхто не ў стане гарантаваць, што дольшчыкі атрымаюць хаця б тое, што належыць ім па дамове. Цяпер беларусы могуць атрымаць 20-гадовы крэдыт пад 31%. Цалкам магчыма, што банк анулюе старыя дамовы і прапануе заключыць новыя кантракты са стаўкай, блізкай да рынкавай.

А за тых, хто атрымае свае кватэры 31 снежня 2011 года, можна толькі парадавацца. Хутчэй за ўсё, яны акажуцца апошнімі, хто выкарыстаў беларускую крэдытную піраміду напоўніцу. Даступнае жыллё ў крэдыт было адным з прывабных для насельніцтва бакоў лукашэнкаўскай эканомікі. Рашэнне Савета Міністраў знівелявала і яго.

**Ягор Марціновіч**

# Рубель уцякае ад курса

Курс даляра вырас **вышэй за 8200 рублёў**, і толькі інтэрвенцыі Нацбанка ўтрымліваюць яго.

Новы фінансавы цуд скончыўся яшчэ раней, чым у яго паспелі паверыць. Пасля двух тыдняў умацавання нацыянальнай валюты для Надзеі Ермаковай прыйшло жорсткае расчараванне — расце даляр, а не рубель. Прычым выхаду на адзіны раўнаважкі курс не відно нават у перспектыве.

### Стой, далей нельга!

Як і прадказвала Надзея Ермакова, у кастрычніку даляр пайшоў угару. Яе шчырыя прызнанні можна назваць адным з фактараў імклівага патаннення нацыянальнай валюты. Іншае тлумачэнне — прыезд у Беларусь місіі МВФ. Так ці інакш, але з 1 кастрычніка курс дадатковай сесіі вырас на 8% і дарос да 8220 рублёў. Прычым курсы куплі і продажу валюты ў абменніках нават большыя за гэты ўзровень, яны даходзяць да 8300 і 8600 адпаведна.

Прычым Нацбанк вымушаны праводзіць інтэрвенцыі, каб курс не ўзляцеў занадта хутка. За апошнія чатыры дні таргоў на гэтыя мэты было патрачана больш за $30 мільёнаў.

### Рэзерв для ўмацавання

Перспектыў для ўзмацнення рубля некалькі.

Па-першае, зноў набліжаюцца 20-я дні месяца, калі прадпрыемствы выплачваюць падаткі і павінны для гэтага закупіцца рублямі.

Па-другое, дагэтуль не адменены падатак на прыбытак, які плацяць банкі з розніцы паміж




афіцыйным курсам і курсам дадатковай сесіі. Калі ён нарэшце знікне, курс мусіць крыху апусціцца.

Нарэшце, на 20-я дні кастрычніка віцэ-прэм'ер Сяргей Румас абяцаў доўгачаканае аб'яднанне курсаў. Прадпрыемствы-экспарцёры па-ранейшаму вымушаны аддаваць 30% валютнай выручкі па заніжаным афіцыйным курсе, таму імкнуцца «кампенсаваць» свае выдаткі на дадатковай сесіі.

**ЯМ**

**Валюта па пашпартах з 6 лістапада**

Згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі, пачынаючы з гэтай даты, купіць нават адзін даляр без дакументаў не ўдасца. А вось здаваць валюту можна і ананімна. Пра ліміты на куплю даляраў ці еўра пакуль не паведамляецца. Інтрыгі сітуацыі дадае пакуль не разгалошаны змест таямнічай пастановы Нацбанка для службовага карыстання «Аб разліку лімітаў на куплю замежнай валюты», прынятай 7 кастрычніка. Яе фармулёўка ўсё ж прадугледжвае нейкія ліміты.

# Сальда гандлю нібыта ў плюсе…

Але гандаль таварамі зноў на **мінус $77 мільёнаў**. І гэта пры курсе 8000!

Прынцыповага паварота ў сітуацыі з замежным гандлем так і няма. З аднаго боку, паводле статыстыкі за жнівень, сальда гандлю таварамі і паслугамі зноў аказалася ў плюсе. Краіна атрымала на $120 мільёнаў больш, чым патраціла. Праўда, гэта ўсё адно горш, чым у ліпені, калі ўдалося выручыць $390 мільёнаў. Дый курс рубля ў жніўні пераваліў занябесныя 8000. І пры такім курсе Беларусь усё адно купляла амаль столькі ж, колькі прадавала.

Трывожная і іншая статыстыка. Калі адкінуць гандаль пас-лугамі — а ён для Беларусі заўсёды быў станоўчы, — выходзіць, што сітуацыя не такая перспектыўная. У жніўні сальда выйшла адмоўным — мінус $77 мільёнаў.

Нізкая эфектыўнасць прамысловасці — адна з галоўных прычын цяперашняга эканамічнага крызісу ў Беларусі.

**ЯМ**

### Сцісла

**Імпартныя лекі моцна падаражэюць**

З 10 кастрычніка Нацбанк спыніў продаж валюты на закуп лекаў і медпрэпаратаў па афіцыйным курсе. Цяпер імпарцёры заплацяць за даляры амаль на 40% больш. Узрастуць і цэны на медыкаменты айчыннай вытворчасці на аснове імпартнай сыравіны.

**Мінгарвыканкам прапануе павысіць кошт праезду да 1200 рублёў**

Цяпер праезд каштуе 950 рублёў. Апошні раз ён даражэў 10 верасня на 50 рублёў.

**Мазырскі НПЗ стаў самым стратным прадпрыемствам Беларусі**

За другі квартал завод спрацаваў у мінус 180 мільярдаў рублёў. Самыя прыбытковыя — «Беларуськалій» (3,14 трыльёна рублёў), МАЗ (457 мільярдаў) і БелАЗ (430 мільярдаў). Далей у перадавіках ідуць пераважна банкі.

**Сбербанк такі дае $1 мільярд Беларусі пад заклад 51% «Нафтана»**

Стаўка па крэдыце пакуль не раскрываецца, тэрмін крэдыту — да аднаго года.

**ЯМ**

# Хто атрымае «сталічныя» 500 тысяч рублёў?

**Бюджэтнікаў** у спісе **няма**.

Мінчукі чакаюць чарговыя 500 тысяч рублёў дапамогі. Услед за рэспубліканскімі выплатамі праз тыдзень-два пачнуцца мясцовыя. Нагадаем, Мінгарвыканкам вырашыў выплаціць гэтыя грошы са сталічнага бюджэту.

Праўда, спіс атрымальнікаў будзе меншым, у яго не трапілі бюджэтнікі. Хто ж можа разлічваць на 500 тысяч?

Гэта непрацуючыя пенсіянеры і непрацуючыя інваліды I і II груп, але толькі калі і ў першых, і другіх пенсія меншая за 663 550 рублёў, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, дзеці-інваліды і дзеці, якія атрымліваюць пенсію праз страту кармільца.

**ЯМ**

# Лукашэнка паказвае страх перад апазіцыяй

І чаму ж у прэзідэнта такая паталагічная нянавісць да апазіцыі? Гэтым самым ён, не заўважаючы, паказвае свой страх перад ёй.

Прэзідэнт настойліва не жадае працаваць з апазіцыяй як з палітычнай сілай. Прасцей за вочы абзываць яе «непарламенцкімі» выразамі, хаця тым самым ён ставіць сябе як прэзідэнта ў вельмі невыгоднае становішча ў сэнсе этыкі.

Ну, можна ж за столькі гадоў пазбавіцца ад гэтых калгасных замашак і больш цывілізавана выражаць свае думкі?

**Не выйшла з нашага прэзідэнта беларускага Валенсы.** »

Беларусь — не нейкае каралеўства, не ўсходняя дэспатыя, дзе кіруюць пажыццёва, а потым улада пераходзіць спадкаемцам. На жаль, не выйшла з нашага прэзідэнта «беларускага Валенсы», хаця абодва яны з простага народа, але якая розніца ў мудрасці! Адзін даў свайму народу і свабоду, і правы, і паставіў краіну на шлях дабрабыту, а другі?

**З.Макеенка, Мінск**

## Прадукт — «чалавечыя яйцы»

Крэдыт ад Расіі, крэдыт ЕўразЭс,
Крэдыт ад далёкіх кітайцаў…
Усё праглынае калгасны «прагрэс».
Прадукт — «чалавечыя яйцы».

Калі параўнаць наш рубель і даляр,
Які на ўзбраенні ў янкі,
Пачнем сумнявацца, што грошы — тавар.
«Зайцамі» ўжо грэбуюць банкі.

Адно суцяшае: між соцень краін
Наш рэйтынг вышэй, чым у Зімбабвэ.
Ёсць чарка і скварка, і бульбяны блін
Пад стымул гумовы па скабах.

**Юзік Дзенісюк, Абухова (Гродзенскі раён)**

## Прапаную назваць «Мінск-Арэну» імем Салея

Страта Руслана Салея — велізарная страта для беларускага хакея. Мінуў час з моманту трагедыі ў Яраслаўлі, а я ўсё не магу адысці ад пачутага. Загінуў адзін з найлепшых хакейных калектываў Расіі, але загінулі і беларускія хакеісты Руслан Салей і Сяргей Астапчук.

Страта Руслана Салея — велізарная страта для беларускага хакея: загінуў найлепшы беларускі хакеіст за ўсю гісторыю гэтага віду спорту. Бліскучы прафесіянал, які, гуляючы ў НХЛ, заўсёды прыязджаў і біўся ў матчах за зборную.

Я б прапанаваў, каб «Мінск-Арэну» пераназвалі ў гонар Руслана Салея. Гэты чалавек вельмі шмат зрабіў для беларускага хакея і яго папулярызацыі.

**Віктар Кажура, Маладзечна**

# Як наконт добрай гарбаты?

**Tea Nature — прыемны прыклад маркетынгу на беларускай мове.**

Каштавалі калі-небудзь чыпсы «Онега»? Кажуць, беларускія. Толькі вось на пачку напісана там па-расейску, па-казахску, па-туркменску, ледзь не па-печанежску, толькі не па-беларуску.

А вось нямецкая фірма GDG Schuette GmbH & Co год таму прыйшла на наш рынак акурат з роднай для нас мовай, рэкламуючы свой багаты спектр смакаў вытанчанай гарбаты гандлёвай маркі Tea Nature.

Слова Nature ў іх — зусім не рэкламны рэквізіт, а прынцып жыцця: яны не дадаюць у свой прадукт хімічных інгрыдыентаў кшталту ўзмацняльніка смаку, загушчальніка... Іхнія араматызатары, «ідэнтычныя натуральным», гатуюцца з адмысловых выцяжак пэўных раслін насамрэч натуральным шляхам: «Зялёная радасць», «Ройбуш — Клубніцы», «Апельсін — Ваніль», «Клубнічная прахалода», «Зялёная мята», «Гарбата + Чорная мята», «Ханібуш — Абрыкос» ды інш. І ўсё гэта так і напісана па-беларуску на інфармацыйных флаерах, на зграбных пакунках.

Дый сама ўлётка — Як наконт добрай гарбаты? Tea Nature, вытворчасць Германіі — можа быць цудоўным узорам еўрапейскіх падыходаў да маркетынгу для нашых вытворцаў.

**Вітаўт Мартыненка, Мінск**

# Рабства — гэта хвароба духу

**Апостала Паўла выдаў раб, хаця яго ніхто не змушаў да гэтага.**

Раб — гэта не толькі сацыяльны стан чалавека, гэта — хвароба духу. Таксама ў 30-я гады XX стагоддзя народу ўводзілі ў свядомасць, што ўсюды ворагі, шмат хто ў гэту лухту верыў і верыў да смерці. Людзей, ні за што рэпрэсаваных, цкавала не толькі тагачасная ўлада, але і простыя грамадзяне, падвержаныя сталінскай прапагандзе. Мае рацыю мудрасць: «Калі чалавеку бесперапынна гаварыць, што ён — малпа, праз год ён у гэта паверыць».

Цяпер у нас тое самае адбываецца: на людзей навешалі ярлыкі ворагаў, «адмарозкаў», «хуліганаў» і г.д. Глядзіце, маўляў, вось яны муцяць ваду, яны ездзяць за мяжу, нацкоўваюць на Беларусь урады суседніх краін. Каму хочуць локшыну навешваць? Частка народа клюе на прынаду.

Самае прыкрае, што клюе на гэта моладзь. БРСМ робіць сваю справу. За 17 гадоў выгадавалі такіх манкуртаў, якіх не выгадавала савецкая сістэма за ўвесь час свайго існавання.

Да якога стану трэба давесці частку народа, каб чыноўнік абласнога ўзроўню лазіў па сметніках і паказваў пальцам, дзе што прыбіраць, быццам у мясцовай улады няма мазгоў.

Але будучыня не за гэтай часткай, а будучыня Беларусі за тымі, хто сядзіць зараз за кратамі.

**С.Ціханавец, Бягомль (Лепельскі раён)**

# Вачыма земляка: пра бацьку Змітра Дашкевіча і ўвесь іх род

Я з суседняй вёскі і калісьці ведаў бацьку палітвязня Дашкевіча, Вячаслава, гадоў 50 таму. У той час ён вучыўся дзесьці ў Мінску. Ехаў з Мінска дадому ў Кушняры Івацэвіцкага раёна, поезд у Івацэвічах не спыніўся, і ён сігануў з поезда. Яго зацягнула і адрэзала нагу, і ўжо ў той час ён хадзіў на пратэзе. У газеце была яго выява, але колькі я ні ўглядаўся, я яго не пазнаў. І не дзіва, час прайшоў немалы.

Дык вось, Дашкевіч Зміцер выплыў невыпадкова, і вось чаму. Я распавяду, якая там была сям’я. Пачнём з дзеда. Дзед быў лесаруб. У яго было чатыры сыны. Старэйшы Мікалай быў дырэктарам саўгаса многа гадоў дзесьці каля Косава. За ім Ігар у Івацэвічах у 60-я гады быў дырэктарам у хімлясгасе. Затым Слава, бацька Змітра. Меншы, Аляксандр, быў у в.Постарынь старшынёй сельсавета, на гэтай пасадзе і памёр.

**Нашы найлепшыя людзі гніюць у турме.** »

Дык вось нашы найлепшыя людзі гніюць у турме, маладыя, разумныя, амбітныя.

У дзеда Дзімы па бацькоўскай лініі прозвішча было Казлоўскі, і хлопцы хадзілі ў школу спачатку з гэтым прозвішчам. А пасля памянялі на прозвішча бабкі Дашкевіч. І цяпер у Кушнярах ёсць прозвішча Казлоўскі.

Для даведкі: Кушняры — вёска хат да 30, маленькая.

**І.Касавец, в.Пяскі (Бярозаўскі раён)**

# «Лукашэнка даў 500 тысяч, Лукашэнка іх і забраў»

За недазволены сацыяльны пікет суд адмераў **пенсіянерам штрафы**.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Яны трымалі ў руках плакаты «Чыноўнікаў — да адказу», «Адміністрацыя прэзідэнта — надзейны ахоўнік беззаконня ў краіне». 3 кастрычніка ў Мінску група даведзеных да адчаю людзей выйшла з плакатамі на плошчу Свабоды. Яны пратэставалі супраць несправядлівых, на іхнюю думку, прысудаў. Іх сваякі сядзяць у турмах, а яны змагаюцца за іх вызваленне.

Пікетаванне скончылася затрыманнямі. Дзевяць чалавек, у тым ліку юрыст Тамара Сяргей, якая аказвае грамадзянам юрыдычную дапамогу, апынуліся ў судзе Цэнтральнага раёна. Астатнія ўдзельнікі пікета перадалі адмысловыя звароты ў Адміністрацыю Лукашэнкі і Генпракуратуру.

Затрыманых, сярод якіх шэсць пенсіянераў, аштрафавалі. «Забралі з нас тыя 500 тысяч, што Лукашэнка нам даў», — расказала «НН» Тамара Сяргей.

10 базавых велічынь штрафу (350 тысяч рублёў) заплаціць, сярод іншых, 73-гадовая Лідзія Кандрашова, былая настаўніца. Пры затрыманні яе проста занеслі ў аўтобус і кінулі на падлогу. Між тым, жанчына раней перанесла інсульт. У выніку ёй стала кепска, ёй выклікалі «хуткую».

Максімальную суму штрафу атрымала спн. Сяргей — 30 б.в. (1050000 рублёў).

**Сямён Печанко**

# Віталь Мацукевіч — «правакатар» з Плошчы

расказвае пра сябе.

Былы палітвязень, якога некаторыя блогеры пасля падзей 19 снежня залічылі да правакатараў, далі мянушку «Чырвоны нос», даў інтэрв'ю «НН». 13 жніўня ён выйшаў на свабоду.

**«Наша Ніва»: Як склалася жыццё пасля вызвалення?**

**Віталь Мацукевіч:** Да арышту я вучыўся ў Беларускім інстытуце правазнаўства на 5 курсе. Яшчэ падпрацоўваў ахоўнікам і эканамістам у будаўнічай кампаніі. Як выйшаў, думаю з братам бізнэс пачаць. Але стромна. Бо там [у турме] шмат бізнэсоўцаў сядзіць.

**«НН»: Вас выпусцілі адным з першых з палітвязняў. Вы напісалі прашэнне аб памілаванні, так?**

**ВМ:** Напісаў. Калі б не сваякі, я мо і не пісаў бы... Мне ў калоніі не было настолькі цяжка. Дый разумеў, што рана ці позна адпусцяць усіх.

**«НН»: Некаторыя блогеры, а следам і журналісты пісалі пра Вас як пра правакатара. Вы гэта адмаўляеце. Якія пачуцці да гэтых людзей?**

**ВМ:** Я не прывык кагосьці ненавідзець. Я ні на каго ніколі не крыўдую. Гэта такая пазіцыя. Людзі памыляюцца. Я не заклікаў біць шкло... У мяне, можа, была нейкая эйфарыя. Можа, падалося, што нешта можа адбыцца... У мяне ёсць грамадзянская пазіцыя, але я не ўваходжу ў склад партый і арганізацый. І калі чалавека няма ні там ні там, гэта не значыць, што ён КДБіст.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Віталь Мацукевіч**

нарадзіўся ў 1987. Вучыўся ў БІП. Быў асуджаны на 3 гады калоніі строгага рэжыму па артыкуле «масавыя беспарадкі». Некаторыя блогеры пасля Плошчы залічылі яго ў агенты спецслужбаў, ахрысцілі «Чырвоным носам».

**«НН»: Што ўсё-ткі адбылося на Плошчы, ці былі, па-вашаму, нейкія правакатары?**

**ВМ:** Не ведаю, правакатары ці не правакатары... Але сілавыя структуры былі гатовыя да таго, што нешта адбудзецца і будуць затрыманні. Былі гатовыя і аўтазакі, і міліцыянты. Калі яны стаялі за шклом, то, як разумею, ведалі, што людзі пойдуць туды. Мне здаецца, што ўсё было неяк спланавана.

**«НН»: Што Вас падштурхнула выйсці на Плошчу?**

**ВМ**: Я хачу, каб выбары праходзілі сапраўды справядліва. Таксама я за бел-чырвона-белы сцяг. Я за беларускасць. Мне блізкія ліберальна-дэмакратычныя прынцыпы з нацыянальным адценнем. Як у Пазняка, толькі «мякчэй». Таму і пайшоў.

**«НН»: Вас затрымалі толькі ў канцы сакавіка. А што да гэтага часу рабілі?**

**ВМ:** Я жыў, як звычайна: вучоба, праца. І не бачыў тады, што пісалі блогеры. А калі даведаўся, што людзей арыштоўваюць, у мяне недзе ў глыбіні з'явілася думка: а магу ж і я патрапіць у гэтую сітуацыю. Пасля сябар патэлефанаваў і сказаў, што мяне на тэлеканале СТВ паказалі. Маўляў, калі нехта ведае гэтага чалавека, каб пазванілі. Я, можа, і спужаўся ў душы. Быў парыў уцячы. 6 сакавіка я паехаў ва Украіну. І спакойна затым вярнуўся. А пасля патэлефанавалі і запрасілі на гутарку на 20 хвілін. Я прыехаў і размова зацягнулася.

**«НН»: 19 снежня Вас не затрымлівалі?**

**ВМ:** Не. Я змог выйсці з кола міліцыянтаў. Са мной побач быў Дзяніс Гусельцаў. Я пайшоў у бок плошчы Мяснікова. Думаю, калі б накіраваўся ў супрацьлеглы бок, то затрымалі б. Але замест удзячнасці, што я вывеў і Гусельцава, ён разам з Аляксеем Шарстовым паклёпнічалі на мяне, казкі нейкія напрыдумлялі. Іх жа абодвух адпусцілі. Гусельцаў першыя паказанні даваў супраць мяне. А Шарстоў сведчыў дзесьці так, як і я. А ўжо ў наступных паказаннях яго словы былі бліжэй да Дзянісавых.

**«НН»: Чым можаце патлумачыць такія паказанні Гусельцава?**

**ВМ:** Элементарным страхам. Зразумела, псіхалагічны ціск.

А я казаў праўду, мне не было чаго хаваць. Так, я крычаў: «Беларусы, сюды!» Стаяў на прыступках [Дома ўрада]. Вось мая віна.

**«НН»: Пасля вызвалення з Шарстовым і Гусельцавым размаўлялі?**

**ВМ:** Як можна размаўляць пасля такога... Я на іх не крыўдую. Проста не кантактую.

**«НН»: Турэмныя ўмовы Вы пераносілі нармальна. Як да Вас ставіліся сукамернікі?**

**ВМ:** Я кантактаваў з тымі людзьмі, ад якіх мог нешта ўзяць. У турме КДБ была моцная падтрымка. На Валадарцы ўвогуле працэнтаў на сто падтрымлівалі. У навапалацкай калоніі менш.

**«НН»: У калоніі бачылі іншых палітвязняў?**

**ВМ:** Я сустракаў Саннікава, Аліневіча. Саннікава асуджаныя называлі Алегавічам. Ён стараўся дыпламатычна кантактаваць з усімі. Бачыў, як да яго падыходзілі і людзі з адміністрацыі пагаварыць...

Чуў такое меркаванне ад асуджаных: «Гэтыя палітычныя. Іх падтрымаюць: пра іх пішуць у газетах, Еўропа... А пра нас?» Бо там ёсць людзі, якія, можа, нешта і здзейснілі, але ж ці павінны яны сядзець? Там цэлая краіна. На Валадарцы быў і журналіст, і дырэктар фірмы, і мытнік, і наркаман, і алкаголік... Разумныя людзі, якія за кратамі карысці не прыносяць, а маглі б тут, на свабодзе, працаваць.

**Сяргей Макарэвіч**

# Настаўніцу ўзялі толькі паштальёнкай



**Наталля Ільініч** застаецца ў чорным спісе пухавіцкага начальства.

Яшчэ летам звольненая за палітыку настаўніца гісторыі напісала ў Пухавіцкі райана заяву аб пошуку працы. Аказалася, што месца для яе няма. Хоць яна гатовая была пайсці ў любую вёску, і настаўніцай пачатковых класаў пры патрэбе.

Цяпер жанчына працуе паштаркай. Яна абслугоўвае палову Талькі і яшчэ тры вёскі. Працуе на няпоўную стаўку.

Наталлі Ільініч — 50 гадоў. Ужо сёлета яна магла б выйсці на льготную пенсію. Не хапіла дапрацаваць дзевяці месяцаў.

Беспрацоўнай Наталля Ільініч стала 27 студзеня. Сама жанчына вінаваціць у несправядлівасці начальніцу ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама Таісу Данілевіч.

Спн. Ільініч ганарыцца, што дапамогу ёй паштовымі пераводамі прыслалі аж больш за 100 чалавек з усёй краіны.

**СМ**

# Дашкевічу дазволілі спаткацца з бацькам

У Глыбокім вязня не прасуюць.

На мінулым тыдні яго нявеста Наста Палажанка сустрэлася з адміністрацыяй калоніі. «Там людзі даволі прыстойныя і кіруюцца найперш законам, што для мяне вельмі важна. Спадзяюся, што сітуацыя са Змітром палепшае. У гэты момант у яго няма ніякіх скаргаў на ўмовы ўтрымання».

Па словах адваката, які бачыўся з вязнем, Зміцер выглядае спакойным. У Глыбокім Дашкевічу дазволілі трымаць пры сабе Біблію, чаго не было ў Горках. Таксама вязню дазволілі перадачы. Але галоўнае, што цягам месяца павінна адбыцца сустрэча з бацькам.

**КМ**

# Табло за 900 мільёнаў

усталяваў **Лядовы палац** у Гродне.

У Лядовым палацы Гродзенскага цэнтра алімпійскага рэзерву па хакеі з шайбай усталявалі новае табло. Каштавала яно 900 мільёнаў рублёў. Як паведамілі карэспандэнту «НН» у адміністрацыі цэнтра, грошы даў абласны бюджэт. У тэндары бралі ўдзел чатыры арганізацыі. Выйграла яго мінская кампанія «Паламі», якая ўсталёўвала табло і на «Мінск-Арэне». Гэтая ж кампанія раней афармляла ў Гродне спартыўны комплекс «Нёман». У адміністрацыі Лядовага палаца патлумачылі перамогу «Паламі» тым, што кампанія прапанавала найлепшую цану і аптымальныя варыянт і тэрмін выканання працы.

Новае табло ўяўляе сабой чатыры святлодыёдныя экраны, якія дазваляюць дэманстраваць відэа.

Кампанія «Паламі» заснаваная ў 1992 годзе. Займаецца вырабам, пастаўкай, мантажом і абслугоўваннем абсталявання для вонкавай рэкламы, афармлення канцэртных і спартыўных пляцовак. Сярод кліентаў кампаніі — Кіраўніцтва справаў прэзідэнта, Мінгарвыканкам, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Беларуская чыгунка, Белдзяржфілармонія, Федэрацыя хакея... «Паламі» афармляла сцэну на Славянскім базары, дзіцячым «Еўрабачанні».

**Сямён Печанко**



PALAMI.EU

**На што б вы патрацілі 900 000 000 бюджэтных рублёў?**

**Ірына Шлык**, выкладчыца Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта: «Дзірак» шмат — і дарогі, па якіх ні прайсці ні праехаць, і медыцына. Але як філолаг я ў першую чаргу выдаткавала б такую суму на музеі Быкава і Багдановіча».

**Сяргей Чабоцька**, стваральнік і адміністратар блога s13: «Частку грошай можна было б аддаць у дзіцячыя дамы рэгіёна. Таксама на вырашэнне транспартных праблем, напрыклад, для арганізацыі «зялёнай хвалі» на ўчастках, дзе часцей за ўсё ўтвараюцца заторы. На такую суму можна было б таксама адрэстаўраваць штосьці з архітэктуры».

**Кацярына Межавец**, жыхарка Гродна: «На маю думку, у першую чаргу трэба было б патраціцца на азеляненне горада. Бо дрэў пілуюць шмат, а аднаўляць знішчанае не паспяваюць».

**Віктар Шалкевіч**, спявак і актор: «Гэта несур'ёзныя для горада грошы. Што на такую суму зробіш? Я б сабраў усіх гарадскіх жабракоў і накрыў бы для іх стол».

# Януковіч пасадзіў Цімашэнку

Яе абвінавачваюць у шкоднай для Украіны **здзелцы з Пуціным**.

Пячэрскі суд Кіева асудзіў экспрэм'ера краіны Юлію Цімашэнку на сем гадоў пазбаўлення волі і забараніў ёй займаць дзяржаўныя пасады на працягу трох гадоў, а таксама пастанавіў, што яна павінна заплаціць «Нафтагазу Украіны» больш за 1,5 млрд грыўняў (каля 188 млн даляраў).

У прысудзе гаворыцца, што ўрад Украіны ў студзені 2009 года адмовіўся зацвярджаць дырэктывы на газавыя перамовы, і тым не менш, кантракты былі падпісаныя. «Прэм'ер з перавышэннем улады асабіста зацвердзіла гэтыя дырэктывы», — сказаў суддзя.

Перад абвяшчэннем прысуду сілавыя органы перакрылі частку Хрышчаціка, дзе пратэставалі прыхільнікі Цімашэнкі.

Юлія Цімашэнка заявіла, што прысуд Пячэрскага суда азначае, што «ва Украіну вярнуўся 1937-ы». «Мы будзем змагацца і абараняць маё сумленнае імя», — сказала экс-прэм'ер. Яна знаходзіцца ў турме ад 5 жніўня.

Прысуд выклікаў абурэнне ў свеце. Дэпутаты Еўрапарламента ўжо заклікалі адмяніць візіт прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча ў Брусэль, які меўся адбыцца 20 кастрычніка.

**СМ**

# У фуражцы народжаны

**Міліцыянт вылецеў** з перакуленага УАЗа і застаўся жывы.

У інтэрнэце з'явілася шакуючае відэа з аварыі ў Маладзечне 28 верасня. Адна з камер відэаназірання зафіксавала, як Seat Toledo на скрыжаванні ўрэзаўся ў міліцэйскі УАЗ. Легкавушка з вялікай хуткасцю рухалася па другараднай дарозе, не спынілася на скрыжаванні. Ад удару УАЗ перакуліўся на правы бок, расчынілася дзверка і з машыны выкінула міліцыянта. Цудам ён згрупаваўся. Цудам яго не расціснула бусікам, што ляцеў і куляўся следам.

На відэа бачна, як міліцыянт, відавочна ў стане шоку, пасля падзення адразу падняўся і, трымаючыся за галаву, адышоў з дарогі. Каб выжыць у такой аварыі, трэба быць сапраўды народжаным у кашулі. Ці ў фуражцы.

**КМ**



**Кіно**

# Дудараў: Час для экранізацыі працягу «Белых Рос» яшчэ не настаў

Пра гэта аўтар сцэнара карціны Аляксей Дудараў заявіў на сустрэчы з гледачамі ў Магілёве падчас міжнароднага фестывалю «Залаты шлягер — 2011».

Цяперашні час Дудараў назваў смутным, а фільмы, якія дэманструюцца па тэлебачанні, паводле яго слоў, «выклікаюць жаданне ўзяць вяроўку і мыла». Кажучы пра фільм «Белыя Росы», які быў зняты ў 1983 годзе, аўтар сцэнара прызнаўся, што не зразумеў, у чым поспех карціны, нягледзячы на «звычайны» прафесіяналізм усіх акцёраў, рэжысёра і ўсіх, хто меў дачыненне да стварэння кінастужкі. «Але цягне ў Белыя Росы, і шчасце таму народу, які мае такі фільм!» — заявіў Аляксей Дудараў, выгукнуўшы «Жыве Беларусь!».

«Артысты і рэжысёр фільма пасапраўднаму дух нашага народа паказалі», — адзначаў пісьменнік.

**БелаПАН**



# У Беларусі можа з'явіцца інстытут прысяжных

Зменшыцца і колькасць злачынстваў, за якія будуць садзіць у турму.

У працы судовай сістэмы краіны абдудзецца шэраг удасканаленняў. Яны прадугледжаныя ўказам кіраўніка дзяржавы, падпісаным 10 кастрычніка. У прыватнасці, прапануецца «разгледзець пытанне аб магчымасці ўвядзення інстытута прысяжных засядацеляў». Апроч гэтага вяртання да забытай практыкі (прысяжныя, дарэчы, былі ў судах Вялікага Княства Літоўскага і зваліся «лаўнікі»), дакумент фіксуе іншыя змены.

Так, разгледзяць пытанні аб стварэнні спецыялізаваных судоў, аб забяспячэнні ўкараненні ў 2012—2013 гадах сродкаў аўдыя-, відэазапісу ў дзейнасці судоў, аб дэбюракратызацыі работу судоў шляхам скарачэння колькасці справаздачнай інфармацыі, аб перадачы органам ЗАГС паўнамоцтваў на скасаванне шлюбу па ўзаемнай згодзе мужа і жонкі, якія не маюць непаўналетніх дзяцей і спрэчкі аб маёмасці.

Прапануецца шырэй выкарыстоўваць магчымасці па спыненні крымінальных справаў на стадыі папярэдняга расследавання ў сувязі з раскаяннем, прымірэннем з пацярпелым і на іншых падставах. Разгледзяць пытанне аб магчымасці выключэння з санкцый шэрагу артыкулаў КК і КоАП ніжняй граніцы пакарання, далейшым скарачэнні колькасці асуджаных да пазбаўлення волі пры наяўнасці ў санкцыях артыкулаў КК мякчэйшых відаў пакарання.

Таксама прапануецца павысіць якасць перападрыхтоўкі суддзяў і кіраўнікоў судоў, вывучыць пытанне аб мэтазгоднасці стварэння ў перспектыве Акадэміі юстыцыі.

**СМ, паводле БелТА**



# Дарафееў дэбютаваў на ўкраінскім ТБ

Першы выпуск яго праграмы «Партрэты» паказаў украінскі «5 канал». У гасцях у беларускага вядучага быў украінскі палітык Арсень Яцанюк.

Дарафеева звольнілі з АНТ пасля таго, як ён задаваў сумленныя пытанні кіраўніцы Цэнтрвыбаркама Ярмошынай у вечар пасля выбараў. Сяргей Дарафееў быў адным з самых папулярных тэлевядучых Беларусі.

**Сяргей Гезгала**

# Стыў Джобс: **сакрэт фенаменальнага менеджара**

Ён умеў любы тавар ператварыць **у асаблівы**.

У Беларусі пра яго гавораць няшмат, а вось прэзідэнт Абама назваў яго чалавекам, які змяніў свет. Гэта ў галаве Стыва Джобса нарадзіўся дызайн і функцыі персанальнага камп'ютара, без якога нельга ўявіць наша жыццё. А пасля каманда Джобса прыдумала айфон і айпад, якія — гэта ўжо відавочна — стануць неад'емнай прыладай гэтага дзесяцігоддзя. Сярэдні беларус пакуль занадта бедны, каб купляць іх. Але хутка яны зробяцца даступнымі і для нашага кашалька.

Унікальны менеджарскі талент Джобса ўсе прызнавалі яшчэ пры жыцці. Ён спалучаў уменні арганізаваць калектыў, адчуваць патрэбы спажыўца і прадбачыць наватарскія тэхналагічныя рашэнні. У той жа час гэта быў жорсткі, патрабавальны дырэктар.

## Мог і аслом назваць

Пра аўтарытарны стыль кіравання Джобса хадзілі легенды. Калі яму не падабалася ідэя супрацоўніка, ён мог назваць таго і аслом. Ён зацята ваяваў супраць «ворагаў»: Microsoft, Google і Amazon... Ён патрабаваў ад супрацоўнікаў захавання строгай сакрэтнасці, якая, на яго думку, выклікала большую цікавасць да новых прадуктаў кампаніі. Навіна пра яго смерць прыйшла на наступны дзень пасля прэзентацыі найноўшай прылады Apple — iPhone 4S. Прэзентацыі, якая прайшла без яго.

## Сірата пры жывых бацьках

Лёс не быў літасцівым да Джобса. Не толькі рак у росквіце гадоў: ягонае дзяцінства таксама было несправядлівым да маленькага Стыва (па-нашаму — Стафана). Ён сын белай амерыканкі і сірыйскага студэнта. Аднак бацькі адмовіліся ад яго. Юная мама пастанавіла аддаць будучае дзіця людзям яшчэ ў час цяжарнасці. Яна выехала ў другі горад, каб ніхто не бачыў яе жывата. Калі Стыў 24 лютага 1955 года нарадзіўся, сацыяльныя службы перадалі сына сямейнай пары з Каліфорніі. Там ён і вырас. Са сваёй біялагічнай маці ён сустрэўся толькі калі стаў ужо багатым чалавекам.

Не скончыўшы нават каледжа, ён разам са сваім сябрам Стывам Вознякам заснаваў Apple Computer Inc. У 1977 годзе выйшаў Apple II, адносна недарагі камп'ютар, прызначаны для масавага рынку. Ён стаў адным з першых камерцыйна паспяховых ПК, які імгненна зрабіў Джобса мультымільянерам.

## Важнасць формы

Ужо тады Джобс аддаваў шмат увагі дэталям дызайну. Брус Таньяціні, былы эксперт кампаніі Apple, які прыйшоў туды ў 1978 годзе, аднойчы сказаў, што Джобс быў непахісны ў меркаванні, што на клавіятуры не мусіць быць клавішаў «уверх», «уніз», «управа», і «ўлева», якія дазваляюць карыстальнікам перамяшчаць курсор па экранах камп'ютараў.

Апантанасць эстэтыкай Джобса часам даходзіла да крайнасці.

Джордж Кроў, інжынер кампаніі Apple ў 1980-х і ад 1998 да 2005, успамінае, як Джобс хацеў зрабіць камп'ютар прывабным нават усярэдзіне. На арыгінальных ПК Macintosh Джобс хацеў зрабіць унутраныя драты колераў вясёлкі, але яго адгаварылі ад «лішніх выдаткаў».

Джобс стварыў NeXT Inc, кампанію, якая ў 1988 годзе выпусціла чорны настольны камп'ютар з палепшаным праграмным забеспячэннем. Яго мінусамі былі высокая цана і некаторыя праектныя рашэнні, але яго аперацыйная сістэма стала асновай для OS X, праграмнага забеспячэння сённяшніх «Макаў» пасля продажу яго NeXT'а за $400 млн у снежні 1996.

## Прадбачлівасць цаной 7,4 мільярда

У 1986 годзе, выкарыстаўшы сваю долю ў Apple, Джобс заплаціў рэжысёру Джорджу Лукасу 10 мільёнаў даляраў і набыў аддзел камп'ютарнай графікі Lucasfilm Ltd. Кампанія Pixar Animation Studios, якая ўтварылася ў выніку гэтай угоды, занялася стварэннем шэрагу камп'ютарных анімацыйных папулярных фільмаў, такіх як «Гісторыя цацак». Джобс прадаў Pixar Дыснею ў 2006 годзе за 7,4 млрд даляраў. У 74 разы даражэй!

У час адсутнасці Джобса Apple пачала цярпець няўдачы: камп'ютары, што выкарыстоўвалі мікрасхемы Intel і праграмнае забяспечанне Microsoft, заваёўвалі рынак. Да 1997 года Apple панесла страты амаль на 2 млрд даляраў за два гады.

## Часовы гендырэктар

У снежні 2006 да ўлады пад тытулам «часовы генеральны дырэктар», які застанецца пасля нязменным, вярнуўся Джобс.






**Айфон (iPhone)**
разумны тэлефон (смартфон). Прынёс Apple сусветную славу. Хоць галоўнае прызначэнне апарата — тэлефонная сувязь, набор дадатковых функцый пераўтварае айфон у шматфункцыянальны комплекс. Магчымасці: тэлефон, інтэрнэт, аўдыё, відэа, фота- і відэакамера.



**Айпэд, айпад (iPad)**
планшэтны камп'ютар, які вырабляецца з 2010. Любімае «дзіця» Стыва Джобса. Магчымасці: інтэрнэт, аўдыё, відэа, фота- і відэакамера, набор тэкстаў праз вялікі сэнсарны экран.

**Сэнсарны экран**
кіруецца дотыкам да яго. Клавіятура не патрэбная.



**Айпод (iPod)**
музычны прайгравальнік. За шэсць пакаленняў прайгравальніка прададзена больш за 250 мільёнаў копій. Магчымасці: аўдыё, відэа.

У якасці заробку Джобс папрасіў 1 даляр у год і правы на акцыі Apple.

Ён знішчыў партатыўны камп'ютар Newton і палепшыў мадэлі Mac, засяродзіўшыся на іх прыдатнасці для рынку. У маі 1998 года ён прадставіў iMac, надзвычай цэльны камп'ютар з каляровым празрыстым корпусам. Apple пачала рэкламную кампанію пад слоганам «Думай інакш» з выкарыстаннем фатаграфій творчых асоб, у тым ліку Альберта Эйнштэйна і Джыма Хенсана, стваральніка «Мапет-шоу».

Праз некалькі месяцаў пасля свайго прыходу да ўлады Джобс замяніў чатырох з пяці топ-менеджараў. Ён распаўсюдзіў электронныя лісты, якія забаранялі супрацоўнікам прыводзіць у офіс сабак і катоў і курыць нават на паркоўках. Ён прыгразіў звольніць любога, хто «зліе» карпаратыўныя сакрэты.

## Рак у 49 гадоў

Падчас другога перыяду кіравання Джобса Apple зноў сутыкаецца з праблемамі. Напрыклад, Macintosh у форме куба, якому не ўдалося заваяваць папулярнасць і які ў 2001 годзе быў перапрацаваны. У выніку Apple ў 2000 і 2001 гадах несла страты. Але наперадзе былі перамогі. У 2001 годзе кампанія Apple прадставіла iPod, якія замянілі лічбавыя музычныя плэеры. Apple дагэтуль мае больш за 70% долі гэтага рынку. Ключавой перамогай была прэзентацыя ў 2003 годзе iTunes Music Store. Джобс здолеў пераканаць буйныя гуказапісвальныя кампаніі прадаць яму свае запісы па 99 цэнтаў кожны. Крама, што прадала больш за 16 мільярдаў песняў, натхніла людзей купляць iPod'ы, бо амаль за ўвесь час свайго існавання песні з крамы iTunes можна было загружаць толькі на музычны плэер Apple.

У 2004 годзе ў Джобса выявілі рак падстраўнікавай залозы. Ён упершыню даведаўся пра пухліну падчас звычайнага ўльтрагукавога абследавання брушной поласці за дзевяць месяцаў да гэтага.

## Апошняя перамога

Тым не менш, ужо хворы, у чэрвені 2007 года Джобс дабіўся яшчэ адной перамогі, калі Apple прадставіла iPhone. Нягледзячы на скептыцызм адносна здольнасці Apple прыйсці на рынак, ужо заняты тэхнікай BlackBerry вытворчасці Research in Motion Ltd., Apple прабілася і прадала 92 млн iPhone'аў па стане на снежань 2010 года.

У мінулым годзе Джобс прадставіў новы модны гаджэт — планшэтны камп'ютар iPad. Іх было прададзена больш за 29 млн. Джобс аддаваў яго распрацоўцы і пошуку механізма для рэкламы ўсю сваю энергію, хоць перад гэтым яму зрабілі перасадку печані.

Тыя, хто ведаў Джобса, лічаць адной з прычынаў поспеху яго інавацыйных праектаў тое, што ён не спыняўся на дасягнутым і патрабаваў, каб супрацоўнікі рабілі тое ж самае. «Ніколі не спыняцца на дасягнутым», — у гэтым прынцыпе ён быў тыповым амерыканцам.

«Я не ведаю лепшага спосабу, як пазбегнуць пасткі — думкі, што час можна і губляць — акрамя як трымаць у галаве, што наша жыццё кароткае», — сказаў Джобс у пачатку сваёй прамовы ў Стэндфардскім універсітэце ў чэрвені 2005 года, прыкладна праз год пасля таго, як у яго выявілі рак.

**Мікола Бугай**

**Пра-бел**

**Сярэднія балы ЦТ за 5 гадоў зменшыліся на 27%**

| Прадмет | 2005 | 2006 | 2010 | 2011 |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова | 42,23 | 36,49 | 31,37 | 31,11 |
| Матэматыка | 28,18 | 26,30 | 21,76 | 21,56 |
| Руская мова | 43,07 | 34,72 | 31,27 | 30,48 |
| Гісторыя Беларусі | 39,87 | 40,13 | 35,10 | 34,88 |
| Фізіка | 33,45 | 30,11 | 18,10 | 18,60 |

Чаму такое адбываецца? Чым гэта пагражае? Што з гэтым зрабіць? Просім выказвацца педагогаў і бацькоў.
Пішыце нам: 220050, Мінск, а/с 537 Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.E-mail: nn@nn.by.

# 16-гадовая дзяўчына загінула ў метро

Яна **ўпэўнена ступіла** ў нішу з рэйкамі і праляжала там секунд 30. Але як толькі заўважыла цягнік, падскочыла.

Трагічны выпадак здарыўся на станцыі «Пушкінская». Загінулай аказалася 16-гадовая навучэнка аднаго са сталічных каледжаў Надзея Ждановіч з Асіповіч.

Як паведаміў «Нашай Ніве» начальнік Мінскага метрапалітэна Расціслаў Юрэня, ён праглядзеў відэа з камер назірання. Дзяўчына зайшла ў метро на станцыі «Кунцаўшчына». На «Пушкінскай» выйшла з вагона і накіравалася ў супрацьлеглы бок платформы. Паводле словаў Расціслава Станіслававіча, ішла яна ўпэўненай хадой і так жа ўпэўнена ступіла ў нішу з рэйкамі.

Там яна не спрабавала ўстаць і праляжала так секунд 30, пакуль не прыехаў цягнік.

Дзяўчыну на рэйках заўважыў супрацоўнік метро, які адразу адключыў напружанне. Але цягнік не здолеў спыніцца — не хапіла нейкіх дзесяці метраў для тармазнога шляху.

На відэа відаць, што, як толькі дзяўчына заўважыла цягнік, яна падскочыла. Але выратавацца не змагла. Яе заціснула паміж платформай і цягнікам. Смерць наступіла імгненна.

Па словах Расціслава Юрэні, у такі ранні час людзі найбольш едуць у цэнтр. Таму з таго боку, дзе дзяўчына звалілася на рэйкі, ёй не было каму дапамагчы.

Надзея Ждановіч вучылася на I курсе ў Мінскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжы гандлю. Яе спецыяльнасць — «прадавачка, кантралёрка-касірка». Жыла ў Мінску на здымнай кватэры.

Адна з сяброўак характарызуе Надзею так: «Добрая была. Ніколі не сумавала. Не было ў яе дрэннага настрою». Яны бачыліся ў суботу, 8 кастрычніка. Кажа, што ні пра якія праблемы ад сяброўкі тады не чула.

**Сяргей Макарэвіч**

**Што рабіць пры падзенні на рэйкі**

1. Калі можаце рухацца, устаньце і, не дакранаючыся да платформы, хутка прайдзіце да пачатку тунэля па ходзе руху цягніка. Арыентуйцеся на чорна-белую рэйку.

2. Калі вы зваліліся і бачыце цягнік, які набліжаецца, кладзіцеся паміж рэйкамі. Не варушыцеся, і тады цягнік праедзе над вамі, не нанясе пашкоджанняў.

3. Ні ў якім разе нельга спрабаваць самастойна вылезці альбо схавацца пад пасажырскую платформу. Уздоўж краю платформы праходзіць кантактная рэйка, на якую падаецца напружанне 825 вольт. Небяспечна нават набліжацца да яе.

4. Калі ў вас на вачах чалавек падае на рэйкі, неабходна як мага хутчэй паведаміць аб гэтым дзяжурнаму па станцыі.



# Беларускі дыпламат разбіў у Вільні тры машыны

Паводле літоўскай прэсы, дарадца пасольства Беларусі Яраслаў Д. **быў нецвярозы**.

У мінулы чацвер, 6 кастрычніка, беларускі дыпламат трапіў у скандал у Вільні. Паводле літоўскага партала Delfi, інцыдэнт здарыўся недалёка ад пасольства Беларусі ў Літве — каля скрыжавання вуліц Наўгардука (Навагрудскай) і Альгерда. Прыблізна ў 21.15 дарадца пасольства Яраслаў Д. на аўтамабілі VW Jetta з зялёнымі дыпламатычнымі нумарамі ўрэзаўся ў мікрааўтобус Renault. Той ад удару адскочыў на легкавік BMW, што таксама стаяў на вуліцы.

Кіраваў дыпламатычным аўто сам Д., у выніку аварыі ён не пацярпеў. У іншых машынах людзей не было. Паводле словаў супрацоўнікаў паліцыі, дыпламат быў моцна п'яны, але ім патлумачыў прычыну здарэння тым, што вельмі стаміўся на працы і заснуў за рулём. Дыпламат адмовіўся прайсці праверку алкатэстарам.

Паліцыя не магла затрымаць дарадцу, які мае дыпламатычную недатыкальнасць, таму яго прыйшлося перадаць прадстаўнікам пасольства. Прыехаўшы на месца здарэння, калегі знялі дзяржнумар з разбітага аўтамабіля, які потым прыйшлося буксіраваць.

Delfi.lt таксама сцвярджае, што беларускі дыпламат быў нецвярозы. Калега, што прыехаў па яго, паставіўся да журналістаў агрэсіўна. Не прадставіўся і патрабаваў не рабіць здымкі, а таксама пагражаў «даць у рог» журналісту. «Супакойцеся, вы не ў Беларусі», — абарвалі яго рэпарцёры.

Афіцыйныя крыніцы скандал у Вільні пакуль не пракаментавалі — ні пасольства ў Літве, ні МЗС.

**Сямён Печанко**


RU.DELFI.LT



**Выпадак у Маскве**

16 верасня расійскія блогеры знялі на відэа ў Маскве, як «Мерсэдэс» з дыпламатычнымі нумарамі і дзяржаўным сцягам на крыле разварочваўся праз дзве суцэльныя лініі разметкі. У каментарах да роліка на YouTube сведкі адзначалі, што аўто беларускага пасла часта парушае правілы ў тым месцы.

**Замежныя дыпламаты — «таксама людзі»**

Улетку 2011 два замежныя дыпламаты ў нецвярозым стане былі спыненыя ДАІ і ў Беларусі. Гэта аташэ італьянскага пасольства Маўрыцыа Крачатэлі, які кіраваў «Аўдзі Q7» з дыпламатычнымі нумарамі. І другі сакратар пасольства Венесуэлы, загадчык консульскага аддзела Ціні Дзі Ларэнца Луіджы Джавані.

# Пацярпелыя справакавалі стральбу?

Уладальнік пнеўматычнага пісталета кажа **пра самаабарону**.

У мінулым нумары мы пісалі пра справу, якая разглядаецца ў Мінгарсудзе. Школьнік Спартак Тамяян, што ў 2008 г. з пнеўматычнага пісталета расстраляў групу моладзі, дабіваецца апраўдання. Ён расказаў сваю версію таго, што адбылося тры з паловай гады таму.

«Я са сваёй дзяўчынай чакаў транспарту, калі падышлі тыя чацвёра. Пачалі прэтэнзіі да мяне выказваць. Абкружылі нас. І мяне ззаду нехта стукнуў. Я не такі дурань, каб чапляцца да іх». Па яго словах, калі пачалася бойка, дзяўчына пачала клікаць на дапамогу. І невядомы малады чалавек адгукнуўся. Але сілы былі няроўныя, і таму Тамяян выхапіў пнеўматычны пісталет.

«Я адразу адмахваўся пісталетам. А пасля пачаў страляць, ні ў кога не цэлячыся, хаатычна. Затым я, хлапец, які ўмяшаўся, яго і мая дзяўчыны пабеглі, селі ў таксоўку і паехалі. Заехалі ў «Прэстан-маркет». Вады ўзяў, каб ад крыві адмыцца — галава была разбітая».

Пасля бойкі на Тамяяна напісалі заяву ў міліцыю. Але знайсці 17-гадовага школьніка не маглі паўгода. Як высветлілася, ён з'ехаў у Краснадар. «Калі даведаўся, што мяне шукаюць, праз паўгода недзе прыехаў».

Дазволу на пісталет у Спартака не было. У 2007-м Тамяян быў асуджаны на чатыры гады ўмоўна з адтэрміноўкай на два гады. За што? «Бойка была», — не паглыбляецца ў акалічнасці Спартак.

Па версіі чатырох пацярпелых, Тамяян разам з іншым хлапцом, якога так не знайшлі і да сёння, напаў на іх 5 красавіка 2008 г. Завязалася бойка, у выніку чаго Спартак расстраляў дзве абоймы з пнеўматычнага пісталета па школьніках. Тамяяна асудзілі на пяць гадоў калоніі. Сёлета Вярхоўны Суд адмяніў усе пастановы ў адносінах да яго. А справу накіраваў на новае разбіральніцтва. Пацярпелыя баяцца, што ў выніку апраўдання Тамяяна ўжо яны могуць апынуцца на лаве ў якасці абвінавачаных.

**Сяргей Макарэвіч**

Пнеўматычная зброя — зброя, у якой для штурхання пашкоджваючага элемента выкарыстоўваецца энергія сціснутага, звадкаванага альбо зацвярдзелага газу. Пнеўматычная зброя з дульнай энергіяй не больш за 7,5 Дж рэгістрацыі не падлягае і набываецца без дазволу.

## Сцісла

**Сутыкнуліся ў тумане**

9 кастрычніка на аўтадарозе Кобрын — Гомель у лабавым сутыкненні легкавіка і мікрааўтобуса загінулі тры чалавекі і чацвёра былі параненыя. Прычынай здарэння стаў абгон ва ўмовах моцнага туману. Загінуў 23-гадовы жыхар Пружанскага раёна, які кіраваў аўтамабілем «Аўдзі-80». Гэта ён выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з мікрааўтобусам «Форд-Транзіт». Загінулі таксама другі кіроўца і пасажырка «Аўдзі».

**Чацвёра загінулі на пажары**

Трагедыя здарылася ў вёсцы Вялікія Навасёлкі Дзяржынскага раёна. Муж і жонка, іх паўналетні сын, а таксама знаёмы не здолелі выбрацца з ахопленага агнём дома. Яшчэ адзін паўналетні сын выратаваўся.

**Заглядзеўся на дзяўчат і знёс святлафор**

Малады мінчук прыехаў да каханай у Гродна. Ноч на нядзелю прабавіў у начным клубе, а раніцай вырашыў пакатацца па горадзе. Заглядзеўшыся на дзяўчат, ён урэзаўся ў святлафор і раздзяляльную агароджу. Высветлілася, што ён быў нецвярозы.

**СП; БелаПАН**

# Нобель-2011: «Многа такіх вершаў запар не прачытаеш»

Нобелеўскую прэмію па літаратуры атрымаў **Тумас Транстромер**, найбуйнейшы шведскі паэт XX стагоддзя.

Ён узнагароджаны за тое, што праз свае «змястоўныя празрыстыя вобразы ён дае нам новае разуменне рэчаіснасці». Так 7 кастрычніка абвесціў на прэс-канферэнцыі пастаянны сакратар Шведскай акадэміі Петэр Энглунд.

Тумасу (Томасу) Транстромеру — 80 гадоў, ён нарадзіўся 15 красавіка 1931 г. у Стакгольме. Гэта найбуйнейшы шведскі паэт XX стагоддзя. Паводле асноўнай прафесіі ён лекар-псіхолаг, працаваў у турме для непаўналетніх, пазней — з асобамі, якія атрымалі цяжкія калецтвы на працоўных месцах. Апроч таго Транстромер — прафесійны піяніст.

У пачатку 1990-х паэт перанёс цяжкі інсульт, пасля якога ў яго аднялася правая частка цела і мова. Але ён навучыўся пісаць левай рукой.

Транстромер — лаўрэат усіх асноўных літаратурных прэмій, што прысуджаюцца ў Скандынавіі. Ён даўно заслужыў Нобеля сваёй творчасцю, лічыць паэт, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч: «Даўно склалася сітуацыя, што Нобель — сума кан'юнктуры: палітычнай, гендэрнай, іншай. Нобель даюць нібыта не творцу, а ідэі, руху, полу, рэгіёну. У выпадку з Транстромерам усё зусім інакш. Гэта адзін з заслужаных жывых класікаў сусветнай літаратуры. Яго паэзія — рафінаваная, элітарная, патрабуе духоўнага саўдзелу чытача. У Беларусі паэтам таго ж культурнага поля з'яўляецца Алесь Разанаў».



**Тумас Транстромер**

Нар. 15 красавіка 1931 у Стакгольме. Найбуйнейшы шведскі паэт XX стагоддзя. Паводле асноўнай прафесіі ён лекар-псіхолаг, працаваў у турме для непаўналетніх. Прафесійны піяніст. Лаўрэат усіх асноўных літаратурных прэмій Скандынавіі. Яго вершы выйшлі ў зборніках «17 вершаў» (1954), «Таямніцы ў дарозе» (1958), «Няскончанае неба» (1962), «Гукі і сляды» (1966), «Змрочназоркі» (1970), «Сцежкі» (1973), «Балтыйскія моры» (1974), «Бар'ер ісціны» (1978), «Дзікі рынак» (1983), «Жывым і мёртвым» (1989) ды інш. У пачатку 1990-х перанёс інсульт, пасля якога аднялася правая частка цела і мова. Навучыўся пісаць левай рукой.

Т.Транстромер стаў восьмым прадстаўніком Швецыі, што атрымаў Нобеля па літаратуры. Раней гэту прэмію атрымлівалі яго суайчыннікі Сельма Лагерлёф (1909), Карл Густаў Вернер фон Хейдэнстам (1916), Эрык Аксель Карлфельт (1931), Пер Лагерквіст (1951), Эйвінд Юнсан і Хары Марцінсан (1974). У 1966 г. Нобеля атрымала і Нэлі Закс — немка, што ў 1940 г. эмігравала ў Швецыю.

Дазнаўшыся пра тое, што яго ўганаравалі Нобелеўскай прэміяй, Транстромер быў «здзіўлены і ўражаны».

Памер Нобелеўскай прэміі сёлета — 10 мільёнаў шведскіх крон ($1,4 млн). Цікава, што імя Транстромера ўгадалі букмекеры — такое здараецца вельмі рэдка. Гэта ўсяго чацвёрты выпадак за адзінаццаць гадоў, калі ім удаецца слушна вызначыць імя лаўрэата літаратурнага Нобеля. У апошнія дні Транстромер выйшаў на першую пазіцыю ў рэйтынгу брытанскай букмекерскай канторы Ladbrokes.com, якая, грунтуючыся на адкрытай інфармацыі, складае свой спіс фаварытаў.

Некалькі тыдняў першае месца займаў сірыйскі паэт Адоніс, які, як лічылася, меў вялікія шанцы з прычыны палітычных падзей у арабскім свеце. Але ў апошнія дні Адоніс страціў першынство і сышоў на 4-е месца. Затое на 2-е нечакана падняўся рок-паэт Боб Дылан.

Вершы нобелеўскага лаўрэата ёсць у перакладзе на беларускую мову. Іх перастварыў перакладчык Лявон Баршчэўскі пры канцы 1990-х. «Зборнік паэта выпадкова трапіў у рукі, некаторыя творы натхнілі — вырашыў перакласці», — кажа ён. Вершы былі апублікаваныя ў альманаху «Annus Albarutenicus (Год беларускі)» №3, 2002, што выдаецца на Беласточчыне.

«Транстромер — паэт традыцыйны, вельмі скандынаўскі. Чытаючы, адчуваеш усю гэтую шырыню — мора, скалы, неба... З іншага боку, адчуваецца і непаспешлівы скандынаўскі тэмперамент: многа гэтых вершаў запар не прачытаеш», — адзначае перакладчык.

**СМ**

**Мова-2011**




Ініцыятыўная група «GOМЕЛЬ!» прапанавала ўсталяваць у горадзе рэкламныя шчыты «Беларуская мова ўнікальная». Жыхарам горада прапануецца падзівіцца непаўторнасцю беларускай мовы, праходзячы каля рэкламных шчытоў, на якіх намаляваныя прадметы, падпісаныя на роднай мове, вучыцца казаць кампліменты.

**Скандал**

## Артур Клінаў: «Справа мастака Бісмарка сфабрыкаваная»

Мастацкая супольнасць выступіла ў абарону мастака Віталя Калгіна (творчы псеўданім — Бісмарк), якога суд скіраваў у псіхіятрычную спецустанову. Мастак быў абвінавачаны ў бойцы, 25 студзеня 2011 г. Фрунзенскім судом Мінска ён накіраваны на прымусовае лячэнне.

Сам мастак і яго родныя кажуць, што справа сфабрыкаваная. Іх патрабаванні аб паўторнай судова-псіхіятрычнай экспертызе ігнаруюцца.

У 1988 годзе мастаку быў пастаўлены дыягназ «шызафрэнія», падстава для якога стала яго карціна «Патрыярх», выстаўленая ў межах калектыўнага праекта «На Калектарнай».

У арт-асяродку Мінска справа Бісмарка атрымала шырокі розгалас. «Тое, куды яго адпраўляюць — гэта горш, чым турма, бо з турмы выходзяць нармальнымі людзьмі, а ў Гайцюнішках адбудзецца поўнае расчалавечванне», — цытуе мастака і пісьменніка Артура Клінава радыё «Свабода».



Мастакі акцэнтуюць увагу на тым, што ўжытае да экстравагантнага дзівака пакаранне несувымерна жорсткае, і небяспекі для грамадства ён не ўяўляе.

**СМ**

**Фота**

## Міжваеннае Палессе і гламур

У Гістарычным музеі адчынілася выстава Соф'і Хамянтоўскай «Паміж кадрамі. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Хамянтоўская паходзіла з дому князёў Друцкіх—Любецкіх. Нарадзілася ў 1902 г. і выхоўвалася ў Парахонску, на Піншчыне. Маляўнічы край і яго жыхары натхнілі яе на першыя творы. Яна фатаграфавала гасцей бацькоўскага маёнтка, а таксама паляўнічых, рыбакоў, жанчын, што пралі бялізну ў возеры.

Ад сярэдзіны 30-х Соф'я пачала жыць у Варшаве. Пераезд змяніў тэматыку яе фота. Яна фіксуе тое, што сёння назвалі б «гламурам». На даваенных здымках паўстае жыццё «залатой моладзі» — з саксафонамі, бліскучымі аўто.

Іншы кірунак творчасці надала вайна. На выставе з 1945 года «Варшава абвінавачвае» фатограф паказвала здымкі зруйнаванай сталіцы.

У 1947 годзе ра-зам з гэтай экспазіцыяй яна выехала ў Лондан, а адтуль, забраўшы з Польшчы дачку Габрыэлу і сына Пятра, эмігравала ў Аргенціну, дзе ўжо не вярталася да прафесіі фатографа. Памерла яна ў Буэнас-Айрэсе ў 1991 г.

**СМ; паводле tut.by**



**Музыка**

## Кадры з беларускіх акцый пратэсту ў новым кліпе «ДДТ»

Вядомы расійскі рокер, лідар гурта «ДДТ» Юрый Шаўчук запісаў новы альбом. У бліжэйшы час пройдзе яго прэзентацыя. Але адну з песень — «Свабода» — Юрый Шаўчук ужо паказаў вясной сваім фанатам. Музыка хацеў, каб у кліпе на гэтую песню былі выкарыстаныя кадры з маўклівых акцый у Беларусі.

Сябры музыкі звярнуліся па хроніку да супрацоўнікаў сайта «Беларускі партызан». Кліп змантавалі ў Мінску літаральна за пару дзён. Ён быў прэзентаваны ў інтэрнэце ў дзень Народнага сходу. У ім — своеасаблівая хроніка падзей ад снежня 2010-га да летніх «маўклівых пратэстаў».

**СМ**

**Архітэктура**

## «Макдональдс» у Бабруйскай крэпасці

хочуць **адкрыць расейцы**. Улады не супраць.

У газеце «Вячэрні Бабруйск» апублікавана інтэрв'ю з галоўным архітэктарам Бабруйска Сяргеем Лявонавым. У ім чыноўнік расказаў пра планы рэканструкцыі гарадской крэпасці. Паводле яго словаў, на тэрыторыі крэпасці вядзе рэстаўрацыйныя працы Беларуская праваслаўная царква. Там ужо цалкам адрэстаўраваныя тры будынкі. «І яшчэ адным аб'ектам зацікавіліся інвестары з Расіі. Яны хацелі б зрабіць там аб'ект тыпу «Макдональдс». Адзінае патрабаванне — захаванне гістарычнага аблічча звонку, а ў сярэдзіне можа быць і сучаснае начынне», — пераканаты галоўны архітэктар Бабруйска.

**Паводле «Вячэрняга Бабруйска»**

# Будзем нараджаць бэбі

Калі ты малады, ты думаеш, што ў жыцці ўсё па планах.
Піша **Зоя С.**


Сяргей Гудзілін

На апошнім курсе тэхнікума, якраз перад самай канчынай сацыялізму, у нашай дзявочай групе дзве дзяўчынкі выйшлі замуж. Адразу ж пасля заканчэння вучобы нарадзілі дзяцей. Было ім усяго дзевятнаццаць гадоў. А яшчэ праз тры гады замужам было ўжо дваццаць былых сакурсніц і на свет з’явілася шаснаццаць дзетак.

І гэта тады, калі ў крамах былі пустыя паліцы, велізарныя чэргі за любой дробяззю, прадукты харчавання выдаваліся па талонах. А з дзіцячым харчаваннем праблемы былі яшчэ большыя. Сваіх нованароджаных дзетак бацькі чымсьці кармілі і, вядома ж, не папяровымі талонамі.

Дзеці выраслі, здаецца, і праблем не было. Цяпер жа мне часта даводзіцца чуць ад маладых, якія пажаніліся і жывуць разам, што ў іх няма магчымасці завесці дзіця: жыллёвыя, матэрыяльныя ўмовы не дазваляюць і іншае.

Цешаць сябе адгаворкамі і спадзяюцца, што у далёкай будучыні ў іх будуць дзеці, а цяпер ім трэба пажыць для сябе. Буду шчырая — і ў часы маёй маладосці такіх хапала.

Прыпамінаецца адна гісторыя. Мы з мужам былі запрошаныя на вяселле да яго сваяка. Амбітная пара гуляла вяселле ў вузкім коле сяброў і родных. Сталы мужчына тады сказаў:

**Дзеці вырастуць, здасца, што і праблем не было.**

— А я хачу праз год пабываць на хрэсьбінах. Зычу, каб праз год у вас, дарагія маладыя, нарадзілася дзіця.

— Якое дзіця, што Вы кажаце?! Нам абжыцца трэба, — неяк нервова і злосна адрэагавала нявеста. Жаніх моўчкі сядзеў побач.

Мужчына, агаломшаны такой рэакцыяй, сеў на сваё месца, але праз пару секунд у яго вачах заскакалі чорцікі ўпартасці, ён упэўнена прамовіў:

— А я ўсё адно вып’ю за свой тост, — падняўся і выпіў.

Вяселле скончылася. Маладыя пачалі жыць у пакойчыку на агульнай кухні, што дастаўся ім ад бацькоў жаніха пасля кватэрнага абмену. Прайшло некалькі месяцаў і сталася так, што маладая жонка зацяжарала. Праз год, як і прадказваў той малайчынадзядзечка, на свет з’явілася цудоўная блакітнавокая дзяўчынка.

І дагэтуль уся іх жылплошча складаецца з таго пакойчыка на агульнай кухні, так і не абжыліся. Каб чакалі дабрабыту, засталіся б бяздзетнымі.

Дачка не была перашкодай іх заможнасці, проста бюджэт усё сваё сумеснае жыццё сям’я будавала па прынцыпу «хто ў лес, а хто па дровы». Пражыўшы амаль дваццаць гадоў, і наогул разышліся.

Мужчына сышоў з сям’і, пасяліўся ў найманай кватэры. Нядоўга быў адзінокі. Хутка да яго пераехала новая каханая. Ён вырашыў жаніцца другі раз. І зноў я трапіла на вяселле да таго ж маладога. Жаніху — ужо за сорак. Нявесце — за трыццаць. Замужам не была, дзяцей не мае. Я, памятаючы той даўні выпадак з тостам пра дзіця, асцярожна пацікавілася ў сіваватага жаніха, якія ў яго планы наконт папаўнення сям’і. Жаніх бадзёрым голасам адказаў:

— Якія планы? Планы самыя найлепшыя — будзем нараджаць бэбі!

Трэба было разменяць пяты дзясятак гадоў, каб навучыцца правільна расстаўляць прыярытэты. Відаць, папярэдняе сямейнае жыццё навучыла...

Я сучасную моладзь у нечым разумею. Яны маладыя, наіўныя і думаюць, што ўсё ў іх жыцці складзецца па іх планах: спачатку жыццё для сябе, дабрабыт, адпачынак на моры, кар’ера, а дзеці — потым. Толькі ў жыцця свае павароты і гэта «потым» можа не наступіць.

Маладым сем’ям усё ж такі трэба пастарацца зрабіць дзве рэчы паралельна: нарадзіць, вырасціць дзяцей і стварыць дабрабыт, кар’еру. Так прыемна глядзець на мам з маленькімі дзеткамі. Малыя цікаўныя, абаяльныя і кранальныя, за імі — будучыня.

Мая бабуля, якая пражыла роўна сто гадоў, любіла паўтараць: «Дзеці — разумнейшыя і лепшыя за бацькоў, каб было інакш, свет даўно звёўся б». Я думаю, бабуля мела рацыю. Галоўнае, каб дзеці нараджаліся.

# Сем сыноў Ёва

Піша **Павел Севярынец.**

*І сказаў Госпад сатане: ці звярнуў ты ўвагу сваю на раба Майго Ёва?*
*Ёў, 1:8*

Толя Крачко, «хімік». Робіць зваршчыкам, працуе — глядзець любата. Заходзіць на склад па ключы ды электроды. Адбывае год за парушэнне рэжыму. Негаваркі.

«Вось патлумач мне, — Толя аблягае бар’ер склада. — Чытаў я Біблію, кнігу Ёва. Бог пакараў яго, не магу разабрацца, за што».

Ого. Кніга Ёва — самая глыбіня Бібліі. Кніга пакутаў, надзвычай шчымлівая, надзвычай беларуская. Выпрабоўваючы веру праведнага Ёва, Госпад дапусціў, каб д’ябал забраў ад яго дзяцей ды знішчыў гаспадарку. Але Ёў, увесь у струпах праказы, у пыле і попеле, атачаны непрыязнымі сябрамі ды сваякамі, усё ж застаецца верны. Ёў — гэта такая вера, калі нават надзеі няма.

Пачынаю тлумачыць пра Божую справядлівасць, пра тое, што вера Ёва сталася прыкладам для мільярдаў вернікаў.

«Стой. Вось у яго было сем сыноў, — Анатоль зачэрпвае з бліжэйшай скрыні, не гледзячы, жменю гаек. — Давай разбярэмся, так прасцей».

З грукатам выкладвае гайкі на бар’ер, іх сапраўды аказваецца сем. «Дзяцей-та за што?» Гайкі змеценыя, Толя дапытліва глядзіць на мяне.

«Чаму ён пасля гэтага яшчэ і верыць?»

Просты беларус зусім не просты. Простага беларускага токара ды слесара судзяць па абвінавачванні ў тэрарызме, а просты беларускі зваршчык намагаецца разабрацца ў таямніцах Божых — і паспрабуйце дастаць дна ў душы аднаго, другога ды трэцяга. Той, хто думае, што беларускую душу можна задаволіць спажывецтвам, запоўніць страхам або вычысціць на ўзор мінскіх вуліцаў да стану святарнай пустаты, моцна памыляецца. Беларуса прасцей утапіць у самім сабе.

Такім чынам, чаму Ёў усётакі верыць? Самае пытанне для восені 2011-га.

Чаму дагэтуль верыць вулічны баец, маладафронтавец Зміцер Дашкевіч, трыццацігадовы пратэстант, абвінавачаны ў хуліганстве і змешчаны ў зону для рэцыдывістаў? Дашкевіч, якога гнояць на этапах ды ў адзіночках, і ў якім мы толькі скрозь краты разгледзелі і пяшчотнага закаханага, і пранізлівага публіцыста — верыць, не піша «прашэння на памілаванне» і застаецца сцягам для няскоранай беларускай моладзі?

Чаму дагэтуль верыць беларускі адмысловец-рэк-ламшчык Зміцер Бандарэнка, якога, хворага, нізавошта калечаць у зоне пасля найскладанейшай аперацыі на хрыбце? А ён асэнсоўвае беларускую нацыянальную ідэю як глыбока хрысціянскую — Бог, Айчына, Сям’я — і, кульгаючы па камеры, толькі паўтарае: «Слава Ісусу! Жыве Беларусь!»

Беларускі дыпламат, патомны інтэлігент Андрэй Саннікаў, аказваецца, можа трываць не адно непрыемных субяседнікаў на перамовах, але і месяцы здзекаў у СІЗА, калоніі, «прэс-хатах» — і верыць у тое, што праўда ўрэшце пераможа.

Беларускі праваабронца Алесь Бяляцкі, якога «здалі» дробныя еўрапейскія чыноўнікі, цярпліва чакае няправеднага суда і па-ранейшаму верыць у еўрапейскую будучыню для Беларусі.

Беларускі афіцэр Мікалай Статкевіч, чые продкімагнаты калісьці будавалі Свята-Петрапаўлаўскі сабор на Нямізе, той самы Статкевіч, ад якога і ўлада, і апазіцыйны бамонд моршчыліся як ад зубнога болю, з мужнасцю сапраўднага шляхціца вытрымлівае галадоўку, няволю, прыніжэнні — верыць, што ягоная ахвяра не марная.



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Чаму дагэтуль верыць маладафронтавец Зміцер Дашкевіч?**

Беларускі журналіст Яўген Васьковіч, усмешлівы і зычлівы каталіцкі вернік, з якім у двары вітаюцца ўсе бабулькі, кідае бутэльку з запальнай сумессю ў будынак раённага КДБ, на судзе, у клетцы, адзявае майку з «Пагоняй», атрымлівае 7 гадоў — і верыць, што рэжым будзе разбураны.

Зваршчык Анатоль не дачытаў кнігу Ёва да канца. А напрыканцы Госпад узнагародзіў пакутніка, вярнуў яму дзяцей, здароўе і даў удвая больш маёмасці.

Колькі іх, беларусаў, хто заблукаў пасярод кнігі Ёва? Цярплівыя, мы корпаемся ў пытанні апраўдання пакуты настолькі зацята, наколькі іншыя народы вышукваюць нацыянальную ідэю ці сэнс жыцця. Беларусы не разумеюць: за што?!

Пакуты ніколі не бываюць марнымі ці выпадковымі — гэта заўжды напаўненне пэўнае меры, адкупленне, накшталт 40 гадоў блукання ў пустыні ці 70 гадоў вавілонскага палону. Свабоду і незалежнасць трэба адпакутаваць, высядзець, вынасіць гэтак жа, як выношваюць дзіця або выціскаюць з сябе па кроплі раба. Валадарства нябеснае высілкамі дасягаецца.

*Куплін*

# Край восені

Невядомыя адрэзкі класічнага турысцкага маршруту.
Піша **Сяргей Харэўскі**.

*Няхай не пакіне нас*
*Восень!*
***Таццяна Сапач***



**Замак — асобна, Мір — асобна.**

Ад сярэдзіны верасня да сярэдзіны кастрычніка — самы беларускі час. Менавіта ў гэтую пару нашая зямля ўбіраецца ў найлепшыя свае ўборы, барвы непаўторныя. У дварах, палісадніках шалёна красуюць самыя нашыя кветкі — астры, вяргіні, аксамліткі, між лісця ў садах свецяцца апошнія плады — залатыя ды пунсовыя. А лес, лес абапал дарогі, прыхарашыўся, апрануў пярэстыя ўборы, між смарагдавых імхоў, у калейдаскопе лісця, зіхцяць ягады і грыбы. А на небе вядуць сваю бітву аблокі — з раніцы сінія-сінія, бэзавыя ды свінцова-шэрыя, на схіле дня — раптам памаранчавыя ды малінавыя ў трывожным муары металёвых разводаў. Менавіта ў такую пару, празрыстую і шматаблічную, калі то вецер з далёкіх разлогаў раптам наганяе дождж, то пырскае праменнем скрозь вітражы лісця астылае сонца, наш край выглядае найвыгадней, найярчэй і найсэнсоўней, нібы падсумоўваючы свой даробак за гэты год і за папярэднія стагоддзі.

І гэта наш час. Дарогі, памытыя дажджамі, вітаюць падарожных, пакуль яшчэ не састыла зямля, а ўжо не ляціць пыл.

## Горад Коласа

Мой шлях, ужо ў які раз, пралёг праз Стоўбцы. Чамусьці толькі цяпер звярнуў увагу, які тут маленечкі Ленін і які вялізарны «жалезны Фелікс», што вось-вось, здаецца, упадзе на дарогу... А таксама з прыемнасцю адцеміў, што старасвецкая тутэйшая Ганнінская царква, паноўленая ў чарговы раз, па-ранейшаму пануе над мястэчкам, бо яе не засцяць навабуды.

Адсюль, са Стоўбцаў, пачынаюцца багата якія турыстычныя маршруты, напрыклад, па Коласавых мясцінах. Партрэт народнага паэта прывітае вас нават у будынку вакзала. А на ўскрайку паселішча, на рагу вуліцаў Сянкевіча ды Коласаўскай, захаваўся той самы засценак Акопы, вядомы нам са школы. Гэты музей чамусьці абмінаюць шматлікія пахаджане-праязджане, хоць ён варты таго, каб запыніцца. Таксама мала каму з тых, хто прамінае Стоўбцы, вядома, што тут ёсць старадаўнія могілкі: габрэйскія, ажно з XVIII ст., каталіцкія і крыху сучаснейшыя праваслаўныя. Зрэшты, гэта на аматара...



**У клецкім раённым музеі можна пабачыць унікальныя экспанаты: старажытная каменная баба ў намітцы.**

## Кабак у плябані

У Мір людзі едуць спецыяльна. Нават у будзённы дзень на колішнім ратушным пляцы віруе жыццё. Сярод турыстаў можна ўбачыць ужо і цікаўных кітайцаў. Замак, шматкроць штурмаваны і палены казакамі гетмана Залатарэнкі, шведамі, расейцамі, выглядае сёння акурат як навюткая кітайская цацка.

Гадоў дваццаць таму пра тое можна было марыць. А многае немагчыма было і ўявіць. Напрыклад, што ў старадаўняй плябані пры касцёле, дзе яшчэ красуецца фундацыйная табліца Мікалая Крыштапа Радзівіла, будзе кабак. Нетутэйшыя дзялкі «дэкаратыўна» пааббівалі муры эпохі Рэнесансу ды разліваюць гарэлку проста пад касцёлам.

Калі б якасць самой рэстарацыі была добрая, пэўна б шмат чаго дараваў. Але калі пабачыў у меню слінява-лісьлівыя «селедочку, картошечку, водочку», калі не ўдалося пагаварыць на мове з падавачом і калі, урэшце, пакаштаваў стравы без смаку, але за немалыя грошы, маё стаўленне да такога пахабнага выкарыстання ўнікальнага помніка даўніны стала адназначным...

Сёння ў Міры хапае крамаў ды кавярняў. Але ў выхадныя яны проста захлынаюцца ад наведнікаў, а ў дажджлівыя будні — пустуюць. Бо ў тутэйшых людзей няма грошай, каб вячэраць у кавярнях. Не вярнуў пакуль Мір і колішняе славы цэнтра асветы ды рамёстваў. Выснова простая: пакуль не стане трывала на ногі тутэйшы люд, каб прыбраць да сваіх рук усе справы, — старажытнае мястэчка не зажыве паўнавартасна, колькі б тут ні фарбавалі фасады...

Адчужанасць тутэйшых ад эрзаца, створанага ўладай, добра бачная, калі прайсці далей па вуліцах мястэчка. Усё тыя ж лядашчыя хаціны, што і трыццаць гадоў таму, усё тая ж запушчанасць на ўскрайках, усё тыя ж п'янтосы пад царквою. А людзі даюць сабе рады не дзякуючы замку, дзе цяпер балююць чужыя людзі ды глядзяць выставу з абсурднай назваю «Казакі — абаронцы Айчыны», а пры дарогах: гандлюючы тым, што дорыць зямля, рака ды лес... А Мірскі замак застаецца для іх чужым, хоць па вайне яго муры прытулілі багата людзей са спаленага мястэчка. Але нават у гэтым сваім ірраэльным, сувенірна-паштовачным выглядзе Мір, перліна нашага краю, варты ўвагі ў любы час, а перадусім, увосень, калі лісце набрыньвае колерам яго старажытных муроў...

## Найпрыгажэйшая ў Беларусі дарога

Дарога з Міра ў Нясвіж — ці не найпрыгажэйшая ў нашай Беларусі. Старадаўнія дубы і сосны ўбіраюць сваімі шыкоўнымі шатамі шашу. А пад гэтымі дрэвамі-волатамі, што, пэўна, памятаюць яшчэ Сыракомлю ды Коласа, тутэйшы люд гандлюе бульбаю, яблыкамі ды рыбаю з Нёмана — тым, што дорыць восеньскі край.

Нясвіж у выхадныя дні сустракае тлумныя натоўпы турыстаў. Пад касцёлам зрабілі аўтастаянку, панастаўлялі ятак з сувенірным хлудам. У сам касцёл Божага Цела не ўбіцца з-за цікаўных прыязджанаў. Равуць сірэны вясельных картэжаў, стары парк агаломшваюць радасны віск і крык. І тут, як і ў Міры, няма дзе падсілкавацца з-за празмернай колькасці гасцей. Зрэшты, гэта добры знак. Горад на пад'ёме.

Затое, калі збочыць з турысцкага маршруту, можна спакойна разгледзець усе тутэйшыя цікавосткі. Напрыклад, ашчадна перанесенага ўбок Леніна і новы «аграгарадок» на ўскрайку парку. Або на самым краі горада — выдатны музей, пра існаванне якога мала хто ведае з самастойных турыстаў. І тут можна адчуць прысутнасць Коласа — у будынку былога кляштара бенедыктынак, дзе сёння педвучылішча, ён вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. А ў замкавым парку бюст Якуба Коласа, рыхтык зроблены з Сяргея Дубаўца, стаіць між іншых вобразаў славутых нясвіжцаў:

...І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?..

Замак, зроблены для турыстаў, пакуль не запрацаваў напоўніцу — экспазіцыя яшчэ не гатовая, затое працуе кавярня, таксама перапоўненая наведнікамі. Зіхціць золатам цюрбан на вежы — фантазія будаўнікоў; фарсіста падстаўляюць бакі бастыёны з новай цэглы ды зіхцяць шклопакеты ў вокнах. На замку, як і на астатнім Нясвіжы, ляжыць цяпер адбітак калгаснага гламуру. Але пакрысе асядае пыл, збуцьвелае лісце хавае сляды навабуду і праз які тузін гадоў толькі пільнае вока адрозніць тут старое ад новага. Жыццё працягваецца.

## Ад Нясвіжа да Клецка

Ад Нясвіжа да Клецка зусім блізка. Дарога коціцца праз чысцюткія палі, аблямаваныя сінім лесам на даляглядзе. І паўсюль відаць коней. Іх, спрадвечных сялянскіх памагатых, дагледжаных і сытых, ад Міра да Клецка ўбачыш часцей, чым дзе у іншых кутках краіны. Значыць, тутэйшыя гаспадары бяруцца за зямлю ўсур'ёз.

Ад Міра да Клецка засталося колькі мусульманскіх могілак-мізараў, па некалі татарскіх вёсках — у самім Міры, у Лоўчыцах, Ардзе. Колькі гадоў таму заарапі адзін такі старасвецкі мізар у Сіняўцы, з мэтаю «пашырэння пасяўных плошчаў». Але вось у Лоўчыцах, на Нясвіжчыне, дагледжаныя татарскія могілкі, схаваныя ў старым дрымучым лесе, яшчэ чынныя. Надпісы на надмагіллях — па-арабску, па-расейску, старэйшыя — па-польску, а нават ёсць колькі беларускіх... Тут ціха-ціха, нібы ўсяго астатняга свету не існуе.

## «Старша Клецка Фара, ніж нямецка вяра»

Клецк, мала чым меншы за Нясвіж, напаткаў, аднак, іншы лёс. Ніхто не разглядаў яго старажытнасці як вялікую каштоўнасць. Па вайне тут узарвалі ўнікальны помнік готыкі, Траецкі касцёл, звесткі пра які сягалі ажно ў 1450 год. У XVI ст. ён стаў быў з волі мажнаўладца Радзівіла Чорнага евангелічным зборам. А яшчэ праз сто гадоў — зноў касцёлам, і пра гэтыя перахрышчванні беларусы склалі прымаўку: «Старша Клецка Фара, ніж нямецка вяра». Але міжканфесійныя дыспуты былі скончаныя ў 1953-м...

І сёння сцяна касцёла, што стаіць у гародзе аднаго з клецкіх жыхароў, — ці ні самы каштоўны помнік. Але для цікаўных падарожных у Клецку нямала вартага ўвагі: валы старажытнага замка, каларытныя будынкі колішніх расійскіх кашараў, цэлы вайсковы гарадок, пабудаваны за польскім часам у рамантычным духу, старыя вулічкі з камяніцамі розных эпох, дамініканскі касцёл, перароблены на царкву Уваскрашэння Хрыстова.

Захаваўся нават будынак, у якім дзеіла славутая Клецкая беларуская гімназія! Усё тое ж, як і паўсюль у Беларусі, — добраўпарадкаванне ў кшталце піянерлагера: чысценька і глуха нават у выхадны дзень. Выгода для туриста — можна што набыць без тлуму. Напрыклад, любыя харчы, на рынках ці ў крамах, танней, чым у сталіцы. Заадно можна пераканацца, што наша мова тут жывая і натуральная, бадай, як у ніводным іншым горадзе.

Затое якія кветкі! У кожным палісадніку, пры кожнай хаце красуюць астры ды вяргіні, што тут, бадай, буйнейшыя, чым дзе яшчэ ў Беларусі. Над платамі зіхцяць яблыкі ды апошняя залатая алыча. А на гародчыках разлегліся памаранчавыя, залатыя ды пярэстыя гарбузы з кабачкамі. Увесь аднапавярховы Клецк проста патанае ў іх, у зыркіх барвах восені! Менавіта гэтай парою, як нашая зямля ўбіраецца ў найлепшыя свае ўборы, барвы непаўторныя, сюды і варта наведацца. І не раз.

*Стоўбцы—Мір—Нясвіж—Клецк.*

## ФУТБОЛ

### 28 тур

**15 кастрычніка:** «Мінск» — БАТЭ. **16 кастрычніка:** «Тарпеда- БелАЗ» — «Дынама» (Мінск), «Шахцёр» — «Дынама» (Брэст), «Нафтан» — «Дняпро», «Белшына» — «Нёман», «Гомель» — «Віцебск».

## КІРМАШ

### «Мэбля-2012»

**Ад 11 да 15 кастрычніка спецыялізаваная выстава-кірмаш у павільёнах «Белэкспа» па вуліцы Купалы, 27** — штогадовая найбуйнейшая падзея ў мэблевай індустрыі Беларусі.

## ІМПРЭЗЫ

### Іншы свет

**16 кастрычніка ў WestWorld Club (Старажоўская, 15а)** — міжнародны музычны фэст нефармальнай музыкі «Іншы свет». Разам з Otto Dix, лідарамі расійскага дарквэйва, возьмуць удзел Evadam Grabar, Silphidae, EndlessNameless, SFL, Project Ale, Disaster Age. **Пачатак а 17-й.**

### Скандынаўскі цыклон з Нільсам Хенрыкам Смітам

**14 кастрычніка а 16-й у бібліятэцы імя Талстога (вул. Маскоўская, 18)** адбудзецца творчая сустрэча з нарвежскім пісьменнікам Нільсам Хенрыкам Смітам «Скандынаўскі цыклон». Малады нарвежскі празаік з'яўляецца лаўрэатам прэміі імя Тар'еі Вэсаса, удзельнікам міжнароднага творчага праекта Dagny і шэрагу літаратурных фестываляў.
У сустрэчы возьмуць удзел паэты і перакладчыкі Ірына Хадарэнка і Павел Надольскі. Уваход вольны, аднак колькасць месцаў абмежаваная. Папярэдні запіс па тэлефоне: (029) 678-75-36.

## КАНЦЭРТЫ

### Авэ Марыя

**17 кастрычніка ў Малой зале імя Р.Шырмы а 19-й** — канцэрт «Авэ Марыя». Бяруць удзел лаўрэаты міжнародных конкурсаў Тамара Рэмез (сапрана), Тэрэза Чарыева (арфа), Яўгені Віданаў (флейта), Зінаіда Феакцістава (мастацкае слова). У праграме — творы Л.Керубіні, І.С.Баха, В.А.Моцарта, Ф.П.Тосці, Д.Вердзі, Ф.Шуберта…

### Канцэрт-трыб'ют The Beatles

**13 кастрычніка а 21-й у бары Doodah King (вул. Берсана, 14)** — канцэрт-трыб'ют The Beatles.

### Skyforger і Znich

**14 кастрычніка а 18-й у клубе RE:Public (Прытыцкага, 62)** — Skyforger і Znich.



**NRM**

18 кастрычніка а 20-й у «Містралі»(Валадарскага, 22) — NRM.

# Восеньскі кірмаш трусоў



15 кастрычніка ў Мінску адбудзецца «Кірмаш трусоў». Ён пройдзе на заатэхнічнай пляцоўцы рынку-2 гандлёвага дома «Ждановічы». На выставе можна будзе пабачыць мноства відаў трусоў, ад дэкаратыўных да мясных. Можна будзе набыць трусоў, атрымаць кансультацыю. Уваход бясплатны.

### Штомесяц 13-га рок па-беларуску

**Штомесяц трынаццатага** — беларускамоўныя клубныя рок-канцэрты **ў клубе «Салтайм» (пр. Незалежнасці 131/1)**. Добрая музыка з тэкстам на сваёй мове.
А распачнецца серыя вечароў канцэртам гурта «Верасень». Менавіта 13 кастрычніка год таму гэта каманда ўпершыню прадставіла сваю праграму ў «электрычнасці». **Пачатак а 20-й.**

### Neuro Dubel

**18 кастрычніка ў «Графіці» (зав.Калініна, 16) а 19-й** — Neuro Dubel.

### Класічная музыка XVII—XIX стагоддзяў

**18 кастрычніка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт класічнай музыкі XVII—XIX стагоддзяў у выкананні «Класік-Авангард».

### «Тройца» ў Брэсце

**16 кастрычніка ў Брэсцкай абласной філармоніі** — этнатрыа «Тройца» з прэзентацыяй новага альбома «Зімачка». **Пачатак а 16-й.**

### Аляксандр Баль

**13 кастрычніка а 20-й у «Містралі» (вул. Валадарскага, 22)** — канцэрт Аляксандра Баля.

### Слёнск

**14 кастрычніка ў Палацы Рэспублікі** — выступ ансамбля песні і танца «Слёнск» (Польшча). **Пачатак а 19-й.**

### Князь Мышкін

**14 кастрычніка ў кавярні «Містраль» (Валадарскага, 22)** — «Князь Мышкін». **Пачатак а 21-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Незавершаная вандроўка

**У галерэі «Панарама» Нацыянальнай бібліятэкі да 20 кастрычніка** працуе выстава акварэлі Міхаіла Міронава «Незавершаная вандроўка», прысвечаная яго памяці. Творы Міхаіла Міронава адзначаны яркай індывідуальнай стылістыкай, напоўнены светлымі ўражаннямі, перадаюць суладдзе настрою мастака і прыроды.

### Лемарыс

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі** працуе выстава, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Станіслава Лема. У межах праекта пройдзе кніжная выстава: будуць прадстаўлены каля 600 пісьмовых дакументаў, што тычацца жыцця і творчасці вялікага фантаста. Будзе выстаўлена дакументальна-інфармацыйная калекцыя вядомага ў нашай краіне лемолага, кандыдата тэхнічных навук Віктара Язневіча.

### Belart.by

**Да 15 кастрычніка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці,47)** працуе выстава «Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі», дзе можна пазнаёміцца з творамі мастакоў з калекцыі Музея сучаснага мастацтва, працамі выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва.

### Фота Соф'і Хамянтоўскай

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Соф'я Хамянтоўская «Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Выстава навятарскім спосабам прэзентуе творчасць фатографа Соф'і Хамянтоўскай, якая нарадзілася на Палессі. Амаль увесь матэрыял прадстаўлены ўпершыню.

### Дні чэшскай культуры

**У Музеі сучаснага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава чэшскага скульптара Отмара Олівы.
**12 кастрычніка ў Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 6а)** пачынаюцца фотавыставы «Музей Кампа ў Празе» і «Паэт-мастацтва Веранікі Рыхтаравай», а таксама адбудзецца дэманстрацыя відэафільмаў пра архітэктурную спадчыну Чэхіі. **Пачатак а 17-й.**

### Кола агню

**Да 15 кастрычніка ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава па выніках IX Міжнароднага пленэра па кераміцы «Арт-жыжаль» майстар-клас» «Кола агню».

## ТЭАТРЫ

### 12 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

### 13 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 14 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Беларускай драматургіі** — «Жанчыны Бергмана»
**Лялек** — «Чайка. Спроба прачытання»

### 15 кастрычніка

**Лялек** — «Пiпi Доўгаяпанчоха»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Купалаўскі** — Translations
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць»

### 16 кастрычніка

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 17 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 18 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»

### 19 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

### 20 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

### 21 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

### 22 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Рускія сезоны XXI стагоддзя»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

### 23 кастрычніка

**Лялек** — «Дзень народзінаў ката Леапольда»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

## КІНО

### Меланхолія Ларса Трыера

**Меланхолія (Melancholia)**
Данія — Германія — Швецыя — Францыя, 2011, каляровы, 130 хв.
**Рэжысёр:** Ларс фон Трыер.
**Ролі выконваюць:** Кірстэн Данст, Шарлота Генсбур, Кіфэр Сазэрлэнд, Шарлота Рэмплінг, Джон Хёрт.
**Жанр:** Сямейна-апакаліптычная элегія.
**Адзнака:** 5,5 (з 10).
Жустын святкуе вяселле, але не здольная схаваць свайго суму. Пакуль людзі бавяцца, да Зямлі набліжаецца планета Меланхолія, якая знішчыць усё жывое.
Ларс Трыер прызнаўся, што зняў карціну, каб пазбыцца дэпрэсіі. Трыераўская меланхолія эстэцкая і вытанчана-фатаграфічная, з узнёслай музыкай Вагнера. Згараюць карціны Пітэра Брэйгеля, ухваленыя Андрэем Таркоўскім; пад зорным небам падае конь, сплывае нявеста-Афелія.
Многіх пекна-ненавісніцкая «Меланхолія» зачаравала, але планета гэтага яўна не заслужыла.

**Андрэй Расінскі**



# Ударыў жывёлу — сеў у турму

**Законапраект «Аб абыходжанні з жывёламі» ўжо прайшоў узгадненне ў дзяржаўных органаў.**

Мяркуецца, што адпаведны закон будзе прыняты налета. Парламент будзе разглядаць яго ўжо ўвесну. З чым сутыкнуцца гаспадары хатніх гадаванцаў, калі дакумент нарэшце ўступіць у сілу?

### З жывёламі — толькі па-людску

Адно з самых радыкальных новаўвядзенняў — крымінальная адказнасць за жорсткае абыходжанне з жывёламі. Яно закладзена ў заканадаўстве многіх краін, але, напрыклад, у суседняй Расіі за такое парушэнне могуць пасадзіць у турму, толькі калі злачынства ўчыніла група людзей. У нашай краіне можа з’явіцца адказнасць і для аднаго чалавека.

### Лішні рот

Трэці сабака ў хаце стане лішнім і для гараджан, і для вяскоўцаў. Калі пільныя суседзі наскардзяцца на лішняга чатырохлапага сябра, давядзецца заплаціць да 175 тысяч рублёў і аддаць сабаку ў прытулак, дзе той будзе два тыдні чакаць новага гаспадара. З катамі паступаюць менш строга. У горадзе — таксама не больш за два, але ў вёсцы — колькі заўгодна. Абмежаванні не датычацца хамякоў, чарапах, пацукоў і іншых прыручаных жывёл.




Бадзяжных жывёл больш не будзе?

А вось сабак «патэнцыйна небяспечных парод» у гарадскіх кватэрах нельга будзе заводзіць увогуле. Спіс налічвае 40 парод. Такія сабакі дажывуць да сваёй смерці, але, каб мець патомства, мусяць пераехаць у прыватныя дамы.

### Чыпіфікацыя ўсёй краіны

Распрацоўшчыкі законапраекта спадзяюцца, што нічыйных жывёл больш не будзе. Кожнаму гадаванцу пад скуру будзе ўведзены электронны чып, з інфармацыяй пра гаспадара, якая трапіць у міжнародную базу. Гэта небалючая для жывёлы працэдура каштуе каля $5, робіцца адночы ў жыцці.

Калі сабака ці кот згубяцца, гаспадар будзе хутка знойдзены і атрымае жывёлу назад. Варта памятаць, што на працягу сутак трэба заявіць пра згубленага гадаванца, інакш будзе лічыцца, што ён выкінуты на вуліцу. У такім выпадку гаспадар заплаціць штраф да 1,5 мільёна ці нават будзе арыштаваны.

### Надакучыла жывёла — адвядзі яе на смерць?

Абаронцы правоў жывёлаў вітаюць стварэнне закона, але пратэстуюць супраць некаторых яго пунктаў. Напрыклад, гаспадары, якім надакучылі іх гадаванцы, атрымаюць права звяртацца ў ветэрынарную службу з просьбай...забіць жывёлу. У стварэнні праекта прымалі ўдзел прадстаўнікі службы адлову і знішчэння жывёлаў, таму абаронцы непакояцца, што некаторыя пункты закона будуць дапамагаць адлоўшчыкам беспакарана забіваць жывёл.

Напрыклад, калі ветэрынары высветляць, што злоўленая сабака ці кот хварэюць на заразныя хваробы, іх не будуць лячыць, а адразу заб’юць. Калі ж яны здаровыя, іх мусяць стэрылізаваць за кошт арганізацыі і праз дзесяць дзён адпусціць на волю. Але ці не будзе для адлоўшчыкаў прасцей прыпісаць сабаку хваробу і знішчыць яго, сумняваюцца валанцёры ГААЖ «Эгіда», якія на працягу года спрабавалі змяніць спрэчныя фармулёўкі законапраекта.

**Ягор Марціновіч**

**Ежа**

# Шакалад стане рэдкасцю праз 40 гадоў?

**Прычына — катастрафічная змена клімату на захадзе Афрыкі.**



Шакалад можа стаць далікатэсам да 2050 года з-за катастрафічнай змены клімату, гаворыцца ў дакладзе Міжнароднага цэнтра трапічнай сельскай гаспадаркі. На думку экспертаў, праз 40 гадоў сярэдняя тэмпература на захадзе Афрыкі вырасце на 2-3 градусы па Цэльсіі, што зробіць клімат Ганы і Кот-д’Івуара непрыдатным для вырошчвання какававых зярнятаў.

Глабальная індустрыя шакаладу, аб’ёмы якой ацэньваюцца ў $ 9 млрд, атрымлівае амаль палову какавы з фермаў гэтых дзяржаў.

Як адзначаюць аўтары даследавання, какавыя зярняты на захадзе Афрыкі ўяўляюць сабой эквівалент наяўных грошай. «Многія фермеры выкарыстоўваюць какаву як банкаматы», — гаворыцца ў справаздачы. Яны набіраюць зерне ў тару і абменьваюць яго на медыцынскія паслугі або плацяць імі школьныя зборы. Акрамя таго, што аб’ёмы какавы, якая вырошчваецца ў Гане і Кот-д’Івуары, маюць стратэгічна важную ролю для ўсёй індустрыі шакаладу, какава з’яўляецца фундаментальнай асновай «нармальнага жыцця жыхароў заходняй Афрыкі».

На думку экспертаў, фермеры пачнуць адчуваць уздзеянне кліматычных змен ужо ў 2030 годзе. Навукоўцы адзначаюць, што какава расце на «незвычайна далікатных і схільных да розных захворванняў» дрэвах. Паразіты і хваробы штогод скарачаюць ўраджай какававых зярнятаў прыкладна на 30%.

Раней найбуйнейшы вытворца шакаладнай прадукцыі Barry Callebaut (пастаўшчык шакаладу для Nestle і Hershey) выказваў асцярогі, што дэфіцыт шакаладу і рост цэнаў на какаву могуць справакаваць зніжэнне спажывання прадукту.

У беларусаў у гэтай сітуацыі два шляхі: закупляцца шакаладам ужо зараз або чакаць, што ў выніку глабальнага пацяплення какававыя дрэвы пачнуць расці дзе-небудзь у ваколіцах Мазыра.

**СМ**

**Тэхналогіі**

# Новым «Айфонам» можна будзе кіраваць голасам

**Далейшыя распрацоўкі тэхналогій распазнавання голасу перакуляць свет камп’ютараў.**

Карпарацыя Apple прэзентавала новую версію iPhone. iPhone 4S будзе працаваць на базе аперацыйнай сістэмы Apple iOS 5. Ад папярэдняй мадэлі навінка адрозніваецца больш магутным працэсарам, як у iPad 2, а таксама 8-мегапіксельнай камерай, якая зможа здымаць ва ўмовах дрэннага асвятлення.

А вось з выгляду iPhone 4S амаль не адрозніваецца ад папярэдніка.

Галоўная навінка — пашыранае выкарыстанне голасу. Маркетолагі Apple назвалі новую прэзентацыю Let’s talk iPhone, бо новая версія гаджэта моцна прасунулася ў тэхналогіях распазнання голасу.

У iPhone 4 ужо ёсць функцыя галасавога кіравання. Гэта базавая тэхналогія, якая дазваляе з дапамогай пададзенай голасам каманды набіраць нумары абанентаў з адраснай кнігі і прайграваць музычныя кампазіцыі з плэйліста.

У Apple даўно працуюць спецыялісты па маўленчай камунікацыі. Летась карпарацыя купіла фірму Siri, якая распрацавала механізм браніравання авіябілетаў і вольных столікаў у рэстаранах праз інтэрнэт з дапамогай галасавых каманд.

Apple застаецца лідарам рынку смартфонаў. Але з ім канкуруе Android ад Google.

**Gazeta.ru**



**Кітайскія піраты не ўгадалі назву навінкі і ў дзень прэзентацыі выпусцілі свае «Айфоны-5» коштам $100.** »

## Прыватныя абвесткі

**ВЫШЫЎКА**

**Майстар** народнай творчасці Галіна Рудніцкая запрашае на заняткі ў студыю беларускай народнай вышыўкі пры Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці. У праграме — традыцыйныя тэхнікі вышыўкі: аздабляльныя швы, набор (процяг), роспіс, лікавая гладзь, крыжык, мярэжкі, вышыўка па сетцы (сакаленне), краявыя швы, злучальныя швы, зборкі (маршчэнне). Заняткі для іншагародніх 2 разы на месяц па суботах з лістапада па сакавік. Т.: (029) 171-13-90, zoraczka@tut.by.

**СЯБРОЎСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ**

**Запрашаем** аднадумцаў 16 кастрычніка ў падарожжа «Па сапежынскіх мясцінах» па маршруце: Чарэя—Пачаевічы—Іванск—Бачэйкава—Двор—Нізгалава—Бешанковічы. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

**Запрашаем** у сяброўскае падарожжа па маршруце Мінск—Прага—Дрэздэн—Мінск 26—30 кастрычніка. Тэлефоны: (029) 622-57-20, (029) 636-50-76.

**ВАЛАНЦЁРЫ**

**Музей** гісторыі польскіх габрэяў шукае валанцёраў, якія валодаюць беларускай мовай, у праект «Віртуальны Штэтл» (sztetl.org.pl). Калі Вы цікавіцеся габрэйскай тэматыкай, хочаце паглыбіць свае веды пра гісторыю і культуру беларускага габрэйства, стаць удзельнікам міжнароднага мультымедыйнага праекта, мы чакаем менавіта вас. З перакладчыкамі працуе дасведчаны рэдактар, па выніках працы выдаюцца пасведчанні і рэкамендацыі. У далейшым магчыма супрацоўніцтва з аплатаю працы. Рэзюмэ дасылайце на адрас: werka80@gmail.com.

**АБІТУРЫЕНТАМ**

**Дапамога** абітурыентам, школьнікам іншых класаў. Фізіка. Матэматыка. Т.: (029) 560-31-89.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

# «Вячэрні Мінск» стаў бясплатнай газетай

**Яго будуць раздаваць у метро.**

Ад 6 кастрычніка ў сталіцы з’явілася яшчэ адно бясплатнае выданне, але ўпершыню — за бюджэтныя грошы. Ім стаў «Вячэрні Мінск». «Газета будзе паступаць у адміністрацыі ўсіх раёнаў горада, працоўныя калектывы ды арганізацыі, буйныя гандлёвыя цэнтры, паліклінікі, студэнцкія інтэрнаты і гатэлі. Мы стартуем з дадатковага накладу 50 тысяч асобнікаў, — кажа генеральны дырэктар «Мінск-Навіны» Кацярына Дубінская. — Мяркуецца, што з 1 студзеня 2012 года наклад газеты на 32 палосах дасягне 100 тысяч асобнікаў. Асноўная мэта праекта — інфармаваць як мага паўней жыхароў сталіцы аб тым, што добрага робіцца для мінчукоў».

Шмат гадоў таму ў мінскім метро спрабавалі запусціць бясплатную газету, але яна хутка закрылася праз стратнасць.

**Паводле «Мінск-Навіны»**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

5 кастрычніка ў мінскім Цэнтры моды прайшоў «Дзень ільну». 11 прадпрыемстваў канцэрна «Беллегпрам» прадэманстравалі свае калекцыі вопраткі і абутку з лёну.



**Танцорка з Беларусі Алеся Вазміцэль, якая цяпер жыве ў Лондане, стала пераможцай конкурсу World Pole Dance (танцы на шасце), што прайшоў у Будапешце. У Беларусі Алеся працавала ў цырку. Гэта не першая яе міжнародная перамога.**



**У Гродне пачалі аднаўляць харальную сінагогу — адну з найстарэйшых дзеючых у Еўропе. На дадзены момант вернікі аднаўляюць будынак уласнымі сіламі. Ужо адрэстаўравалі ўчастак фасада, пачалі мяняць вокны.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У Мінск прылятаў Мішэль Плаціні. Славуты ў мінулым французскі футбаліст цяпер узначальвае УЕФА. Візіт быў у рамках 100-годдзя беларускага футбола. Малыя не ўпусцілі магчымасці ўзяць аўтографы.**

## Анекдоты

* * *

І зачэм вам гэты Гары Потэр? Чым ён так прыглянуўся? Я вось на Чыпаліне вырас і нічаво, у айпады пальцамі не тыкаю, в атлічые ад некатарых.

* * *

70% не давяраюць Гары Потэру. Дадзеныя Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта.

* * *

Пакуль кіраўнік краіны праводзіць прэсканферэнцыі, «Камедзі-клаб» не патрэбны.

* * *

— Чуў, Грэцыя абвясціла дэфолт?
— Ой, а што ж цяпер будзе з Грэцыяй?
— Тое ж, што і з Беларуссю.
— Там Лукашэнка будзе прэзідэнтам?

***

На Глыбоччыне няма «Вконтакте» і «Аднакласнікаў», затое там ёсць сенавалы з аднакласніцамі.

* * *

— Якая палітычная сістэма ў Расіі?
— Апошнія чатыры гады была Дзімакратыя, а пасля выбараў зноў будзе Вовакратыя.

* * *

Гардэробшчыца з 30-гадовым стажам можа па хадзе і па вачах вызначыць, ёсць у чалавека пяцелька на паліто ці не.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гродна.** П'яны яфрэйтар Кушын прабіў нажом жывот нейкай кабеце, каторая спакойна ішла па вуліцы. Пасля кінуўся на жонку падпрапаршчыка Гарадзецкага, каторая праходзіла міма з сваім мужам, і таксама цяжка зраніў яе нажом у жывот. Кушына арыштавалі.

**«НН». №40. 1911.**

**Рэктар БДУ Казулін страціў прыхільнасць Лукашэнкі і міністэрскае крэсла**, а велізарны бюджэт універсітэта перададзены пад кантроль Міністэрства адукацыі. У БДУ чакаюць спаду заробкаў і стыпендый — найвышэйшых сярод ВНУ краіны. Не зважаючы на высілкі дэканаў факультэтаў ды іхніх намеснікаў, большасць студэнтаў прагаласавалі супраць Лукашэнкі.

**«НН». №41. 2001.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7500. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 11.10.2011.
Замова № 4897 .
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12